# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 45 (2947) Год LVII | Беласток, 4 лістапада 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Пра Беларусь→3



Сяргей Лукашук→8

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Бардаўская восень 2012 — разнароднасць прапаноў

**Дзевятнаццаты выпусук Фестывалю беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская восень — 2012», які праходзіў ад 25 да 29 кастрычніка, адзначаўся вялікай разнароднасцю музычных прапаноў.**



Дзве ўзнагароды — старасты Бельскага павета і прыватную Ірэны і Канстанціна Сахарчукоў — атрымаў калектыў «Геліса» з Бельскага белліцэя



Гран-пры фестывалю і ўзнагароду Польскага радыё Беласток атрымаў гурт «Нельга забыць» з Мінска

Цікавай ідэяй была паэтычна-музычная сустрэча з Надзеяй Артымовіч і Алегам Кабзаром у Публічнай гміннай бібліятэцы ў Нарве. Чарговы раз пашырана была таксама тэрыторыя канцэртных выступаў. Побач Бельскага дома культуры, дзе традыцыйна арганізавалася галоўная частка фестывалю з конкурснымі слуханнямі і выступамі лаўрэатаў, яго ўдзельнікі запрэзентаваліся яшчэ ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку, Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных, Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах і першы раз мелі магчымасць выступіць у нядаўна здадзенай у карыстанне Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскім цэнтры мастацтва ў Беластоку. Публіка, якая на працягу пяці дзён збіралася ў розных месцах на канцэртах, прамая трансляцыя фестывалю па Радыё Рацыя, а таксама перадачы ў іншых сродках масавай інфармацыі далі магчымасць дайсці з рэпертуарам фестывалю да вялікай колькасці жыхароў Падляшша і Рэспублікі Беларусь, адкуль у галоўным прыбываюць удзельнікі мерапрыемства. Важным для фестывалю «Бардаўская восень» быў сёлетні ўдзел ажно трох выканаўцаў з Беласточчыны ў конкурсных змаганнях, у ліку звыш дзесяці конкурсных удзельнікаў. Усе гурты з Беласточчыны выклікалі станоўчае ўражанне ў публікі і гэта хіба самае важнае для маладых людзей з Бельска, Макаўкі, Ляўкова і Нараўкі, якія пераламалі страх перад спаборніцтвам з конкурсантамі з Беларусі.

— Вельмі цешыць нас, што ёсць трох конкурсных выканаўцаў з Беласточчыны і я спадзяюся, што гэта дасць штуршок для выступаў нашых чарговых гуртоў у час бліжэйшых выпускаў фестывалю. Даем магчымасць выступаць няконкурсным удзельнікам фестывалю ў новых месцах і расцягваем у часе нашае мерапрыемства, каб дайсці да шырэйшай публікі, — сказаў Ігар Лукашук са Звязу беларускай моладзі, арганізатара фестывалю. — Думаем мы ўжо таксама пра юбілейны дваццаты выпуск «Бардаўскай восені», што будзе ладзіцца ў наступным годзе і хочам, каб ён розніўся ад іншых выпускаў.

Пасля конкурсных слуханняў члены камісіі ў размове з журналістамі не скрывалі, што сярод лепшых выканаўцаў складана было ім вылучыць самага лепшага конкурснага ўдзельніка фестывалю, бо меркаванні членаў журы разыходзіліся. Аднак Гран-пры «Бардаўскай восені» атрымаў гурт «Нельга забыць» з Мінска.

— Я апошнім часам сам пішу тэксты песень, з якімі мы выступаем, а новая наша праграма называецца «Месца моцы». Імпульс для гэтага названня паўстаў пасля наведення паганскага яцвяжскага капішча ў Белавежскай пушчы з вашага боку з такім самым назовам, — гаварыў Міхал Бараноўскі, вакаліст гурту «Нельга забыць», які раней выступаў з музычнай праграмай «Леаніды не вернуцца да зямлі...», паводле аднайменнага твора Уладзіміра Караткевіча. Калектыў атрымаў таксама ўзнагароду Польскага радыё Беласток — магчымасць запісу свайго альбома ў студыі.

— Сёлетні пераможца фестывалю гурт «Нельга забыць" запрэзентаваўся на высокім узроўні, а яго вакаліст Міхал Бараноўскі чарговы раз прыняў удзел у «Бардаўскай восені» і, відаць, што разгортвае ён свае музычныя здольнасці. У агульным узровень выступаў конкурсных удзельнікаў не быў сёлета такі высокі, як у час лепшых выпускаў фестывалю, але прэзентаваўся разнародны рэпертуар. Зараз пераважаюць гурты, якія выступаюць з аўтарскімі песнямі і мне, асабіста, замала было выступаў бардаў, якія традыцыйна спяваюць і іграюць на гітары, без акампанементу іншых інструментаў, якіх было многа ў пачатку арганізавання фестывалю. Можа таму асабліва спадабаўся мне выступ Святланы Трапук, якая цікава запрэзентавалася з гітарай, — сказаў член конкурснай камісіі, дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Мы паўтараем, што ўсе прызы, апрача Гран-пры, раўнапраўныя і паколькі пераможцу ўзнагароды Гран-пры складана было нам вылучыць, то выбраць іншых лепшых выканаўцаў было ўжо лягчэй. Сярод конкурсных гуртоў з Беласточчыны вялікае ўражанне зрабіў на мне гурт з Бельскага белліцэя, цудоўны выступ вакалісткі і іх тэксты, — заявіў шматгадовы член конкурснай камісіі Міхал Анемпадыстаў з Мінска (конкурсных выканаўцаў ацэньваў яшчэ Лявон Вольскі) і дадаў: — З бардаўскай песняй выступае асоба, у якой ёсць аб чым сказаць, якая ўмее данесці свае думкі да публікі і пры гэтым карыстаецца адпаведнымі музычнымі прыёмамі.

Узнагароду Радыё Рацыя атрымала Святлана Трапук з Наваполацка, якая выступіла з класічнай бардаўскай песняй.

— У нас шмат таленавітых людзей, якія спяваюць, але мала месцаў, дзе можам выступаць. Я спяваю пра каханне, пра сацыяльныя праблемы. Барды спяваюць у нас таксама на палітычныя тэмы, але ціха, — сказала Святлана Трапук.

Узнагароду Бельскай кааліцыі атрымаў калектыў «Дзівасіл» з Мінска.

— Мы раней выступалі з апрацоўкамі народных песень, а зараз сталі выступаць з аўтарскімі творамі, — гаварылі Іна Перасецкая-Малаковіч і Андрэй Малаковіч з гурту «Дзівасіл».

Дзве ўзнагароды — старасты Бельскага павета і прыватную Ірэны і Канстанціна Сахарчукоў — атрымаў калектыў «Геліса» з Бельскага белліцэя.

— Выступ у конкурснай частцы «Бардаўскай восені», гэта цікавая падзея ў нашым жыцці і новы вопыт. Мы наогул выступаем з беларускім і іншым рокам, а тут запрэзентавалі іншую музыку. Моцна хваляваліся перад выступам, але зараз ён ужо за намі, — сказала Аня Селевановіч, вакалістка гурту «Геліса» і дабавіла, што раней разам з хлопцамі з гурту дапамагалі ў арганізаванні «Бардаўскай восені» і, магчыма, што яе атмасфера падштурхнула да ўдзелу у конкурсным аглядзе.

— Я рады, што як роўны з роўнымі змагаўся за перамогу гурт «Геліса» з нашага белліцэя, у якім свой вакальны талент праявіла Анна Селевановіч. Ведаю, што моцна хвалявалася яна перад выступам, але на сцэне заспявала ўдала. Гурт «Геліса» ў цэлым не саступаў выканаўцам з Беларусі. Гэта паказвае, што няма чаго баяцца і нашыя выканаўцы могуць удала змагацца за перамогу з конкурснымі ўдзельнікамі фестывалю з Беларусі, — гаварыў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Цікава і арыгінальна заспявалі сёстры з «Сямейнага тэрцэта» з Макаўкі. Цікавым на свой спосаб быў таксама выступ хлопцаў з Ляўкова і Нараўкі.

— Добра нам сёння спявалася і атмасфера ў зале добрая. Мы наогул выступаем з апрацаваным фальклорам без акампанементу, а сёння рашыліся заспяваць інакш і пад гітару, — заявілі сёстры з Макаўкі.

— Мы праводзім рэпетыцыі ў святліцы ў Старым Ляўкове і выступаем наогул з рокам, а тут рашыліся запрэзентаваць нешта іншае, пашырыць свае музычныя гарызонты і выявіць свае эмоцыі ў іншай музыцы, — сказалі выпускнікі Гайнаўскага белліцэя Пётр Пякарскі і Марцін Кандрацюк, члены гурту «Трус на ўвязі», якія выступілі з песняй на словы Янкі Купалы і з аўтарскім творам.

Публіка станоўча ўспрымала выступы ўсіх конкурсных удзельнікаў, хаця па-рознаму ацэньвала паасобных выканаўцаў.

— Мне здаецца, што сёлетні ўзровень конкурсных выступаў быў вышэйшы, чым мінулагодні. Аднак я можа гэта так успрымаю, бо ў мінулым годзе хвалявалася перад сваім выступам, — заявіла Паліна Рэспубліка, якая сёлета выступіла як зорка фестывалю і зрабіла вельмі станоўчае ўражанне на публіцы. Пасля мінулагодняй перамогі на «Бардаўскай восені» выступіла яна ў некалькіх дзесятках канцэртаў і стала асобай распазнавальнай у музычным свеце ў Беларусі.

У час сёлетняга фестывалю, які праходзіў з чацвярга ажно па панядзелак, у розных месцах Беласточчыны выступілі зоркі — «HandmadE», «Re1ikt», «ILO&friends», «Босае сонца», «Сундук», «Змiцер Вайцюшкевіч&W-Z Orkiestra», Алег Кабзар, Віктар Шалкевіч і Лявон Вольскі. Разам з конкурснымі ўдзельнікамі з рознай музыкай запрэзентавалася ў час фестывалю звыш дваццаці выканаўцаў і гэта вялікі поспех «Бардаўскай восені». Як штогод два канцэрты трансляваліся таксама ў эфіры Беларускага Радыё Рацыя дзякуючы фірме „Мультымедыя Польшча”.





# Лішняя гадзіна

У Польшчы перавялі час на зімні. Таму прыйшоўшы на беластоцкі вакзал я зразумеў, што маю лішнюю гадзіну да адыходу аўтобуса. Забыўся напярэдадні перавесці свой гадзіннік. Забыўся, як і ўся Беларусь. Але цешыў сябе думкай, што лішняя гадзіна ніколі не бывае лішняй, і яе таксама можна скарыстаць з карысцю. Прыкладам, пайсці паразважаць. Ацаніць пражытае ў апошні час.

У невялічкім парку гулялі дзеці. Дастаралі з-пад толькі што выпаўшага снегу восеньскае апаўшае лісце і кідаліся ім. Ім было весела. Я злавіў сябе на думцы, што ў нас такая забава немажлівая. Лісце ў нас усё змецене, прыбранае. А навошта, ніхто сказаць не можа. Чаго яго змятаць? Гэта ж не смецце. Але, хіба, кожны сваю думку мае і на тое, што называць смеццем, або што называць непатрэбным, ці нават небяспечным.

Вось у Свіслачы, дзе мясцовыя і прыехаўшыя з розных куткоў Беларусі патрыёты сабраліся ўшанаваць памяць паўстанцаў 1863 года, улады небяспечнымі рэчамі палічылі старадаўнюю беларускую сімволіку. У суботу чатырох чалавек затрымалі за яе выкарыстанне. Людзей зачынілі за кратамі да панядзелка, а справу накіравалі ў суд.

Успомніў я і гэты суд, свіслацкі. І мяне з сябрамі калісьці раней там судзілі. Зноў жа за выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга. Нічога добрага ад гэтага суда чакаць не прыходзіцца. Апраўдальны вердыкт па гэтай справе немажлівы ў прынцыпе. Гэта ж не за абы што судзяць, а за выкарыстанне той сімволікі, якая яшчэ зусім нядаўна ўпрыгожвала і будынак свіслацкага суда таксама.

Судзяць толькі таму, што людзі захацелі ўшанаваць памяць продкаў, якія паклалі галовы ў баях за святыя і вечныя ідэалы. За тое, што гэтыя людзі прыйшлі напярэдадні і прыбралі лісце... з магілак. Не з парку. Прыбралі магілы, паставілі лампадкі і запалілі свечкі...

Беластоцкі таксіст спытаўся, чаму я так паглядаю на людзей з лампадкамі і свечкамі. Няўжо, кажа, у нас у Беларусі „Дзяды" не святкуюць? Я ўсміхнуўся. Як я яму магу за гэты кароткі час па дарозе ад парку да вакзала распавесці розніцу ў адносінах дзяржавы да святкавання „Дзядоў" у нас і ў іх? І не толькі гэтую розніцу растлумачыць не паспець за гэтую лішнюю гадзіну, але і кожную іншую. Нават такую дробязь цяжка растлумачыць, чаму восеньскае лісце ў беластоцкіх парках ляжыць і цешыць вока наведвальнікаў, а ў Гародні яго прыбіраюць. А на могілках дык наадварот. Я пра адносіны краіны да могілак, зразумела. Да свіслацкіх могілак у прыватнасці і да ўсёй беларускай гісторыі ў цэлым.

А вось беларускі таксіст у Гародні завёў зусім іншую размову.

— Вы ведаеце, — паскардзіўся ён, — мяне з самага ранку спынілі і праверылі на алкаголь.

— І што такога? — здзівіўся я.

— Ну гэта ж подла правяраць людзей на алкаголь зранку! — абурыўся ён. — Раптам чалавек вечарам выпіў. Ясна што зранку пакажа прыбор, што ён п'яны. Але ж ён не п'яны! Ён абсалютна цвярозы! Алкаголь то ў яго крыві не актыўны, а ўжо мёртвы. Ён не дзейнічае на мазгі і не ўплывае на язду. Гэта ж несправядліва!

— У свеце шмат чаго несправядліва, — адказваю яму. — І тое, пра што вы мне гаворыце не самая страшная несправядлівасць.

— А якая страшней? — здзівіўся таксіст. — Я зразумеў бы, каб яны гэтыя грошы, што на штраф ідуць, сабе забіралі. То тады прэтэнзій аніякіх да іх не меў бы. А то ж ні сабе, ні людзям! Усё ў дзяржаву ідзе!

Ён хіба яшчэ нешта дадаў бы да гэтых развагаў, але я не вытрымаў і рассмяяўся. Той замоўк і не разумеў з чаго я смяюся. А я з таго, што ўжо другому таксісту за адзін дзень нічога не магу сказаць. Таму пра восеньскае лісце, а гэтаму пра свіслацкі суд, пра іншыя суды, і пра тое, што справядлівасць немажліва памераць прыборам для вымярэння колькасці праміляў алкаголю ў крыві. За справядлівасць трэба змагацца.

А пасля гляну ў на гадзіннік і адкрыціў яго назад. Лішняя гадзіна знікла. Яе то і не было насамрэч. Ілюзія. Як сцвярджае старадаўняя мудрасць, калі недзе дадаецца, то ў іншым месцы прападае. І наадварот.

Віктар САЗОНАЎ



# Трупны пах улады

Ці чакае нас новы цудоўны свет? Той з мрояў Я. Качынскага?! Бо той, бачаны вачыма Д. Туска, нейк непрыкметны для сярэдніх грамадзян, валіцца на яго вачах. Дзіўна тое, што штосьці, чаго не было, аднак відавочна паказваецца ў поўні свайго небыцця як палітычная катастрофа. Паўтараю, дзіўнае гэта, але і не дзіўнае, таму што Польшча славутая дзівамі. Такім дзівам з'яўляецца ПіС, які стварае паралельны да канстытуцыйнага ўрад, назначаючы яго кіраўніком палітычнага аматара П. Глінскага. Дзіўным з'яўляецца тое, што ніхто не здзіўляецца. Існуе такая мала вядомая прымаўка: „А каб ты нічому не здзіўляўся!". Не здзіўляюцца толькі мёртвыя. Хаця... пярэчаць гэтай думцы эксгумаваныя ахвяры смаленскай трагедыі. Яны здзіўляюцца... здзіўленню жывых. Страшнаму здзіўленню.

Скандал з эксгумацыяй па-людску балючы. Перш за ўсё для сем'яў трагічна памерлых. А бясклапотнасць, якую паказалі дзяржаўныя чыноўнікі ў час ідэнтыфікацыі іх блізкіх, мусіць трывожыць кожнага грамадзяніна. І незалежна ад яго палітычных сімпатый. Прызнаюся, што ПіС, якога якраз я не вельмі паважаю, у адным мае рацыю. Тлумачэнне, што памылковыя пахаванні, да якіх дапусціліся чыноўнікі, былі вынікам стрэсу, звязанага з катастрофай, з'яўляецца баламутным. Захаванне выканаўчых працэдур, якія маюць элімінаваць якраз чалавечы дэфект, гэта фундаментальны прынцып, якім павінен кіравацца кожны прадстаўнік дзяржаўнай адміністрацыі. Калі не прытрымліваецца яго, дык або з-за ўласнай напышлівасці, або невуцтва, або, што горшае, напышлівасці і невуцтва самой улады, якая такога чыноўніка ў сваёй структуры адабрае. Таму што ўлада, якая па сваім вызначэнні выконвае падпарадкаваную ролю ў адносінах да дзяржавы, поўнасцю адказвае за непавагу да юрыдычных, адміністрацыйных і на канец маральных стандартаў, будучых інтэпрэтацыяй чыноўніцкіх паводзін. Чыноўнікі, ад прэм'ера да афіснага клерка, таму называюцца дзяржаўнымі, бо іх задачай з'яўляецца клопат аб добро дзяржавы, а не ўлады, якую выконваюць. А выконваюць яе па дaручэнню выбарцаў і таму вінаватыя яны службовую турботу ад імя прадстаўлянай імі дзяржавы — ад зачацця аж да магілы. Грэбаванне гэтым значыць, што ўлада хварэе смяртэльнай немаччу званай гніллю.

Не з'яўляецца маім намерам вінаваціць урад Туска і ГП за ўсе афёры і скандалы апошніх гадоў. Улада гэта таксама г.зв. сеймавая апазіцыя. Які агульны этычны і мерытарычны ўзровень пануючых над намі дэпутатаў няхай кожны мяркуе паводле ўласнага сумлення і ведаў. А ўлада гэта таксама правасуддзе, пракуратура, паліцыя і шэраг іншых устаноў, будучых часткай дзяржавы. Ці гэта яшчэ ўстановы ёй падлеглыя, ці звышдзяржаўныя карпарацыі, звязаныя з уладай персанальнымі ладамі? Калі абвінавачваюць суддзяў Вярхоўнага суда ў хабарніцтве, а іншых суддзяў у грубасці, калі абвінавачваюць пракурораў у юрыдычнай абыякавасці, калі паліцыю абвінавачваюць у невыконванні законнасці, гэта значыць, што ўлада страчвае панаванне над даверанымі яе апецы ўстановамі. Такім чынам апынулася пад пагрозай польская бяспека, аснаваная на даверы дзяржаўным установам. Эксгумацыі вымушаныя грамадскай думкай даказваюць, што гэты давер моцна напружаны.

Цяперашняя ўлада атручвае дзяржаву быццам гнільная бактэрыя. Трупны пах, які спадарожнічае польска-польскай вайне, распаленай ПіС і ГП — прыклад гэтаму. Не адна ў Польшчы вядзецца вайна. Хоцькі-няхоцькі, усе мы ўдзельнічаем у светапоглядным і ідэалагічным канфлікце. Ад чыйго імя яго раздзьмухваюць? Ад імя каштоўнасцей, ці толькі партыкулярных інтарэсаў? І чыіх інтарэсаў? Паводле адных падкормкай для польска-польскай вайны з'яўляецца ўзаемная нянавісць Туска і Качынскага. Паводле іншых — усе канфлікты падмацоўвае варожая агентура, хацеўшая палітычна і эканамічна аслабіць польскую дзяржаву. Незалежна ад таго, што з'яўляецца прычынай распаду ўлады ў нашай краіне, факт, што дакапалася яна да свайго дна, калі праз чыноўніцкую напыхлівасць і невуцтва пэцкаюць бесперапыннасць польскай дзяржавы. Такім сімвалам быў апошні прэзідэнт РП на чужыне Рышард Качароўскі родам з Беластока, якога таксама эксгумавалі, каб праверыць, ці Ён — гэта Ён. Ад яго імя — Чалавека і заадно Сімвала — здзіўляюся. І няхай бы здзіўляліся ўсе.

Мірaслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Сеймікавыя вупыры ў Оперы



Цікава было ў час апошняй сесіі падляшскага сейміка. Раніўнюю яе частку здзяйснілі тлумачэнні наконт выезду маршалка Ярaслава Дважанскага і віцэ-маршалка Яцка Пярунка ў Баварыю ў Нямеччыне. Абвінавацілі маршалка ў тым, што паехаў загуляць на піўным свяце Актоберфэст у Мюнхене. Некаторыя электронныя СМІ паказалі нават г.зв. дублёўкі са свята, спасылаючыся на іх тэкстам з-па-за экрана аб яго ўдзеле ў піўных забавах. Усё гэта, як было адзначана, за грошы падаткаплацельшчыкаў. З тлумачэнняў маршалка ясна вынікала, што мэтай візіту ў Баварыі была чарговая сустрэча з уладамі павета Дзінгольфінг-Ландаў з мэтай „давядзення да афіцыйнага партнёрства рэгіёнаў Баварыі і Падляшша". Гэты матыў, які кранаўся на сесіі, аднак я пакіну.

Больш зацікавіў мяне наступны пункт, дзе маршалак тлумачыўся з абвінавачванняў звязаных з інаўгурацыяй новага сезона ў Падляшскай оперы і філармоніі і адкрыцця яе новага гмаху, а асабліва з банкета спраўленага пры гэтай нагодзе, а які стаў падставай для атакі СМІ. Прэс-сакратар маршалка не хацеў выявіць коштаў банкета, пры нагодзе груба прагнаўшы журналістаў адной з тэлестанцый (прымяніўшы фразу „wypocha mi tu!"), што ўварваліся ў яго кабінет з пытаннямі ў гэтай справе. Асабліва Тэлебачанне Беласток таму абвінаваціла маршалка ў „праяданні" публічных грошай, пытаючыся „чаму ўлада есць ад нашага імя?". У час сесіі маршалак выявіў банкетныя дэталі (інфармацыя аб таргах на банкет і яго коштах была пададзена раней у інтэрнэтным Бюлетэне публічнай інфармацыі). На прыём 771 асобы выдалі 99 тысяч 800 злотых (брута) і ў цэласці выдаткі былі пакрыты з продажу білетаў-запрашэнняў на прэм'ерныя спектаклі „Страшны двор" і „Корчак". Маршалак пры нагодзе абвінаваціў — перш за ўсё Тэлебачанне Беласток — у маніпуляцыі пры гэтай тэме.

Калі я прыслухоўваўся гэтай сесіі, зацікавілі мяне таксама іншыя выступленні наконт прэм'ерных спектакляў у Оперы. Намеснік старшыні сейміка Ян Хайноўскі (ПіС; былы сенатар ад Выбарчай акцыі «Салідарнасць») гаварыў аб проста антыпольскіх элементах у „Корчаку":

— Ці ў „Корчаку" прагучала хаця б адно слова аб фактычных віноўніках (гітлераўцах — М. Х.). На сцэне толькі прахаджваецца чалавек, пераапрануты ў нямецкую форму (гэта няпраўда, не толькі — М. Х.).

Адзначыў, спасылаючыся на „Страшны двор":

— Пан Раберта Скальмоўскі (дырэктар ПОіФ, а заадно рэжысёр абодвух спектакляў — М. Х.) мае права на сваю інтэрпрэтацыю, але змясціў элементы чужыя Манюшку, шматкультурнасць (гаворка, напрыклад, пра жэсты жагнання двугапланавых герояў па-праваслаўнаму — М. Х.).

Раней Хайноўскі заклікаў пасвяціць гмах Оперы; факт, што гэтага раней не зрабілі, даваў да адмовы каталіцкай арцыбіскупскай курыі ад арганізацыі тут юбілею рукапалажэння ў святарскі сан мітрапаліта-сеньёра Станіслава Шымэцкага:

— У нашай хрысціянскай культуры выконваем чын пасвячэння нават меншых аб'ектаў, каб пачынаць з Богам (...). Гаворка не пра цэнзуру, але пра сенсабілізацыю гэтага пана (Раберта Скальмоўскага — М. Х.) на элементы, якіх ён можа не разумее.

Маршалак Дважанскі (ГП) адказваў:

— У кансультацыях з Канцылярыяй прэм'ера і дыпламатычным корпусам мы вызначылі, што лепшым момантам будзе іншая сітуацыя. Калі эмоцыі ўлягуцца, з арцыбіскупамі Азароўксім і Іакавам вызначым тэрмін і здзейснім гэты чын. Для мяне роля двух галоўных Касцёлаў на Падляшшы відавочная.

У дыскусіі іншы з радных скардзіўся на акустыку ў Оперы, яшчэ іншы — на мулкія крэслы ў ёй. А я чакаю, калі на ваяводскім сейміку радныя, успамінаючы пра Оперу, дыскутаваць будуць пра дасканаласць каларатуры мецца-сапрана, глыбіню басоў ці захапляючых (або не) партыях тэнораў. А ў сваю чаргу над банкетамі пры такіх нагодах, як інаўгурацыя імпазантнага гмаху Оперы з удзелам шаноўных гасцей з усяе Польшчы і свету, праходзіць будуць да парадку дня. Я ўпэўнены — гэтак не стане ніколі. Пакуль Опера разбуджвае сярод ваяводскіх радных толькі вупыроў.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# У пошуках паслявыбарчай дарогі



Справа:Кшыштаф Станоўскі, Аляксандр Мілінкевіч, Роберт Тышкевіч, Эва Фігель

Аб магчымасці карыстання Еўрапейскім фондам дзеля дэмакратыі, які пачне працаваць ад наступнага года, і іншых формах дапамогі для беларускіх няўрадавых арганізацый, а таксама м.інш. аб неабходнасці змены выбарчага кодэксу Беларусі і патрэбе кансалідацыі апазіцыйных асяроддзяў размаўлялі ўдзельнікі канферэнцыі „Беларускае адкрытае грамадства перад выбарамі; перспектывы на будучыню", арганізаванай у Падляшскай ваяводскай управе Таварыствам „Амікус" і Падляшскім цэнтрам еўрапейскай інфармацыі па ініцыятыве польскага Міністэрства замежных спраў. Гэта была другая дэбата (26 кастрычніка) апошнім часам у Беластоку, прысвечаная сітуацыі ў Беларусі пасля парламенцкіх выбараў не прызнаных Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе ды Еўрапейскім парламентам. Першая прысвечаная была эканамічным пытанням. У гэты раз сярод удзельнікаў былі прадстаўнікі беларускіх і польскіх няўрадавых арганізацый, у тым ліку палітычных і прафсаюзных рухаў, ды прадстаўнікі польскага Міністэрства замежных спраў. Аляксандр Мілінкевіч, лідар Руху „За свабоду", успамінаючы апошнія выбары заявіў, што іх байкот значнай часткай апазіцыі быў добрым вырашэннем:

— Нашы палітвязні гэта прадмет гандлю. Для гэтай мэты не акупляецца ў Беларусі праводзіць свабодныя выбары. Пасля выбараў 2010 года (прэзідэнцкіх, пасля якіх былі ўзмоцнены рэпрэсіі ў адносінах да апазіцыі, у тым ліку некаторых лідараў зняволілі — М. Х.) неабходнай з'яўляецца дэманстрацыя грамадству, што ёсць альтэрнатыва, бо грамадства не разумее, чаму пры „нас" будзе лепш. Не хапае даверу, што апазіцыя давядзе да лепшага жыцця.

Віктар Карняенка, старшыня Згуртавання „За справядлівыя выбары", як і пасля іншыя прамоўцы, адзначыў, што апазіцыя перад парламенцкімі выбарамі не мела адной стратэгіі:

— Вялікай праблемай з'яўляецца тое, што амаль палова нашага грамадства думае, што ў Беларусі няма праблем з выбарамі. Улада ў час выбараў змяняла іх прынцыпы. Сышліся яны з цыклам крызісных з'яў. Эканамічныя праблемы людзі пачынаюць асацыяваць з уладай. Гэтых праблем ужо не ўдаецца зваліць на апазіцыю. Улада не мае іншага выхаду як узмацняць рэпрэсіўную сістэму і дацiскаць апазіцыю. Апазіцыя мусіць быць да гэтага падрыхтаванай і мусіць змяніць сваю стратэгію.

Заўважыў:

— Людзі не лічаць парламента сапраўднай уладай. Не мае ён для іх значэння.

Вацлаў Арэшка са Згуртавання няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі:

— Апазіцыя надалей непадрыхтаваная да змагання. Улада лічыць, што сам факт яўкі на выбарах гэта праява лаяльнасці народа ў адносінах да яе. Яўка паказала аднак, што грамадства не гуляе з уладай. Была незвычайна нізкая, напрыклад, у Мінску менш чым 30 працэнтаў. Гэта дае апазіцыі ў рукі іншыя карты. Не трэба непасрэдна змагацца з уладай, а больш працаваць з народам.

Эва Фігель, намесніца дырэктара усходняга дэпартамента МЗС дала ацэнку:

— Гэтыя выбары не паўплывалі на змены ў Беларусі. Паказалі яны толькі штораз горшую сацыяльную сітуацыю, звязаную з эканамічным становішчам, якое паказвае, што ўлада штораз больш не мае сродкаў, каб забяспечыць грамадскія спадзяванні. Грамадства пачынае бачыць, што гэта міф, быццам бы ўлада забяспечвае іх быт. Пачынае думаць: калі не дзяржава, дык хто можа.

Прыгадала польскую пазіцыю:

— Пакуль не будуць асвабоджаны ўсе палітвязні, ніякіх размоў на ўзроўні ЕС — Беларусь не будзе.

Дэпутат Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня сеймавай камісіі замежных спраў, старшыня парламенцкай групы па справах Беларусі:

— Няма сёння ўмоў, каб паменшыць узровень санкцый у адносінах да Беларусі, а нават ёсць такія, каб іх павялічыць. Каб ЕС быў эфектыўны, мусіць прадстаўляць у адносінах да яе супольную пазіцыю, каб рэжыму Лукашнкі не ўдалося нас раз'яднаць. Паводле міжнароднага грамадскага меркавання, недахоп супольнай тактыкі ў час апошніх выбараў ацэньваўся як праява слабасці.

Намаўляў беларускую апазіцыю да стварэння г.зв. вонкавага бюро ў Брусселе (пры ЕС), якое „было б прадстаўніцтвам з аўтарызацыяй усіх апазіцыйных асяроддзяў":

— Ключавым з'яўляецца сёння ўздзеянне ЕС на беларускае грамадства шляхам візавай лібералізацыі, працягу стыпендыяльнай праграмы для маладых ды падтрымка мясцовага грамадству.

Успомніў пра чатыры галоўныя напрамкі падтрымкі з боку Польшчы, а менавіта незалежныя СМІ (Еўрапейскае радыё для Беларусі, Радыё Рацыя, тэлеканал Белсат), стыпендыяльна-адукацыйная праграма імя Кастуся Каліноўскага, праграма падтрымкі няўрадавых арганізацый, падтрымка рэпрэсаваных:

— Трэба гэтыя напрамкі ўтрымаць і быць паслядоўнымі і рашучымі. Найбольш важнай з'яўляецца лібералізацыя візавай палітыкі.

Да націску на беларускую ўладу ў справе ўвядзення дамовы аб малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю заклікаў таксама Кшыштаф Станоўскі, былы віцэ-міністр замежных спраў, цяпер старшыня Фонду міжнароднай салідарнасці, які паінфармаваў, што праз гэты фонд дзяржаўнай казны — як гэта назваў — у напрамку Беларусі праз польскія няўрадавыя арганізацыі перададзены былі ўжо 3 мільёны злотых:

— Фонд не накіроўваў сваіх назіральнікаў на парламенцкія выбары ў Беларусі. Сорамам было б за імі назіраць, а гэтым самым рабіць іх верагоднымі.

Дадаў:

— У штораз большай ступені беларускае грамадства „адварочвае зрок" ад Лукашэнкі, ды не знаходзіць альтэрнатывы. У будучым годзе па ініцыятыве Польшчы рушыць Еўрапейскі фонд дзеля дэмакратыі. У першую чаргу будзе дзейнічаць на тэрыторыі краін, мяжуючых з ЕС, якія яго не запрашаюць, дзе ЕС не мае супрацоўніцтва з урадамі.

Тут асабліва заахвочваў карыстацца гэтым фондам беларускія дэмакратычныя арганізацыі, паколькі будзе вялікая канкурэнцыя, асабліва з боку прадстаўнікоў краін Паўночнай Афрыкі і арабскіх. У гэтым кантэксце гаварыў:

— Час для Беларусі паводле міжнароднай грамадскай думкі — нядобры.

І далей:

— У гадавым плане прагрэсіўнага супрацоўніцтва на падтрымку для Беларусі будуць тыя самыя грошы. Будзем падтрымліваць лакальныя СМІ і лакальныя арганізацыі.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП вярнуўся да тэмы апошніх выбараў у Беларусі:

— Я не разумею трактавання кожнай чарговай выбарчай кампаніі як новай. Таксама сёлетнія выбары гэта паслядоўнасць ранейшых дзеянняў. Пароўну павінны біцца ва ўласныя грудзі як першыя палітыкі ЕС, так і беларускай апазіцыі, чакаючыя дэмакратызацыі выбарчага працэсу. Непаразуменнем з'яўляецца чаканне таго, што на цяперашнім этапе надзвычайнага становішча апазіцыя будзе гаварыць адным голасам, па-за тым, што ёсць дыктатура (...). Лукашэнку заспела тое, што грамадства пагрэбавала ім. Байкот мог тут адыграць значную ролю, прытым у кантэксце палітвязняў. Найбольшая санкцыя гэта такая, што Лукашэнка будзе татальна збайкатаваны ўласным грамадствам і міжнароднай грамадскасцю. Еўропа і апазіцыя павінны трымацца таго, што выбарчы кодэкс у Беларусі мусіць змяніцца.

Уладзімір Колас, старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі:

— Здабыванне падтрымкі прафесійнай апазіцыйнай дзейнасці ў Беларусі немагчымае, таму мы залежныя ад вонку і часта паміж сабою канкуруем у гэтых адносінах. Эфект у сённяшняй сітуацыі могуць прынесці толькі кансалідаваныя дзеянні. Людзі шукаюць альтэрнатывы, чакаюць. Пакуль мы не ў змозе стварыць нейкіх крокаў для перамогі. Калі перад прэзідэнцкімі выбарамі 2015 г. паставім сабе за мэту перамогу, мусім мець персаніфікаваную альтэрнатыву і план прадстаўлення гэтай персаніфікацыі народу. Цяперашняя канфігурацыя дэмакратычных сіл не адпавядае рэальнасці. Трэба зноў падумаць аб адным руху.

Іншыя прамоўцы выказвалі перакананне:

— Аб якой апазіцыі і задзіночанню мы гаворым, калі апазіцыя агулам мае два працэнты падтрымкі і гэта менш за статыстычную памылку?

— Да наступных выбараў трэба падрыхтаваць лідараў, якія скажуць які закон прымуць і якія змены будуць праводзіць. Інакш можна прадбачыць, што пасля вернецца сістэма, супраць якой мы змагаліся. Трэба падумаць аб акадэміі падрыхтоўкі лідараў, у рамках падтрымкі грамадскіх ініцыятыў.

Уладзімір Хільмановіч з Фонду імя Льва Сапегі ў Гродне:

— На працягу апошніх дзесяці гадоў у рэгіёнах наступіла счышчанне адкрытага грамадства, паменшала актыўнасць у глыбінцы. Рэпрэсіі і страх спрычыніліся да вынішчэння іх лідараў, з якіх значная частка з'ехала за мяжу. Дапамога звонку таксама паменшала.

Сяргей Антусевіч, віцэ-старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:

— У Беларусі наступае інерцыя эканамічных працэсаў. Да нашага саюза сталі далучацца людзі.

Паскардзіўся:

— Мы — партнёр Незалежнага прафсаюза „Салідарнасць", але не можам падаваць заяў у польскае МЗС.

Іна Кулей, кіраўнік Камітэта абароны рэпрэсаваных „Салідарнасць" заклікала аказваць дапамогу рэпрэсаваным па палітычных прычынах, звольненым з працы, у пошуках яе або ў перападрыхтоўцы.

— Патрэбная ім дапамога, каб не з'язджалі за мяжу. (...) Патрэбная не толькі еўрапейская адукацыя, але і яе прамоцыя, перакананне, што такія выпускнікі давядуць краіну да дабрабыту.

Спасылаючыся на адно з выказванняў, Эва Фігель заявіла:

— Дамова аб малым памежным руху паміж нашымі краінамі не можа дзейнічаць аднабакова. Калі б так сталася, то і так ніхто з Беларусі і ў Беларусь у яе рамках не будзе ўпушчаны і выпушчаны.

Кшыштаф Станоўскі:

— Мы былі б зацікаўлены ў праектах дапамогі канкрэтным асобам. Прафсаюзы з мэтай здабыцця сродкаў на сваё супрацоўніцтва ад МЗС могуць знайсці партнёраў звонку. Чакаем праектаў датычных прафесійнай перападрыхтоўкі і падтрымліваючых малы бізнес.

Завяршаючы дэбату дэпутат Тышкевіч падвёў:

— Кожная апазіцыйная дзейнасць, незалежная, заслугоўвае павагі і павінна размешчвацца на еўрапейскую дапамогу. Беларусь не засяроджвае на сабе сёння еўрапейскай увагі. Зацікаўленне Польшчы Беларуссю не з'яўляецца кан'юнктурным, таму што мы ёсць і заўжды будзем суседзямі. Не трэба самабічавацца тым, што мы неэфектыўныя. Гісторыя ўмее задзівіць, а вырашэнні прыходзяць у нечаканы момант. Трэба быць гатовымі на гэты момант.

Аляксандр Мілінкевіч, падзякаваўшы, адзначыў:

— Польшча застаецца пры цяперашніх еўрапейскіх праблемах адзінай краінай, якая займаецца прамоцыяй Беларусі.

## Польска-беларускія святкаванні юбілею бітвы пад Леніна



У сяле Леніна Горацкага раёна ў Беларусі 12 кастрычніка адбылося святкаванне 69-й гадавіны бітвы жаўнераў Першай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі з нямецкімі салдатамі 337-й Пяхотнай дывізіі Вермахта і XXXIX Бранятанкавага корпуса. На ўрачыстасць прыйшло шмат людзей з Беларусі, прыехалі дэлегацыі з Польшчы. Цэлая мясцовасць была ўпрыгожана сцягамі дзвюх краін. За загінуўшых былі адслужаны імша і паніхіда. Удзельнікі ўсклалі кветкі да мемарыяла і прынялі ўдзел у мітынгу.

Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Валерый Малашка выказаў сваё задавальненне тым, што добрай традыцыяй стала арганізаванне сустрэч беларусаў, палякаў і рускіх у Леніна. Ён падкрэсліў, што „нашы народы не могуць забыцца ран перыяду вайны. Перамога над фашызмам з'яўляецца агульным здабыткам чалавецтва. Гэта таксама сігнал для маладога пакалення як важна жыць у міры і супрацьстаяць злу". У сваю чаргу старшыня Польска-руска-беларускага пагаднення Мар'ян Вальчак нагадаў, што маладыя польскія салдаты аддалі на беларускай зямлі тое, што ў іх самае каштоўнае — сваё жыццё. Вандроўны шлях на радзіму значылі яны магіламі. „Вызваляючы Беларусь, змагаліся яны за незалежнасць Польшчы і адкрыццё шляху на радзіму для ўсіх палякаў, якія былі на Усходзе. Гэта была таксама барацьба за іх жыццё. Нашыя заблытаныя лёсы спрычыніліся да таго, што адны іх подзвіг хваляць, іншыя — крытыкуюць. Тым не менш яны не змагаліся дзеля палітыкі, толькі змагаліся за Польшчу. Нікому нельга адбіраць славы ў салдат. Давайце пачнём ініцыятыву прымірэння", — заклікаў Вальчак.

Палкоўнік Тадэвуш Таркоўскі, намеснік старшыні Галоўнага праўлення Саюза ваенных інвалідаў сказаў, што ў тыя часы важнымі былі толькі барацьба за Польшчу і перамога над фашыстамі. „Мы таксама ведалі, што без вызвалення ўсіх славянскіх народаў не атрымаецца перамогі. Разам мы перамаглі нацыстаў. Сёння мы можам атрымліваць асалоду ад свабоды. Хто не перажыў жахаў вайны, той не ў стане асэнсаваць яе жудасці", — сказаў Таркоўскі. Для маладых людзей гэта быў свайго роду ўрок гісторыі. Яны мелі магчымасць пагутарыць з ветэранамі, пачуць іх успаміны. Гэта таксама была важная падзея ў адносінах паміж палякамі і беларусамі. Пошук таго, што аб'ядноўвае ў агульнай гісторыі, будуе масты дружбы паміж нашымі народамі.

**Адам БОБРЫК**

# Самае важнае — быць сабою

З Паўлам Жуком — дырэктарам Гміннага асяродка культуры, спорту і турызму ў Карыціне гутарыць Уршуля Шубзда.



Фота Уршулі Шубзды

***— Яшчэ раз віншую поспехаў у галіне прамоцыі карыцінскага сыру, які ад гэтага года ахоўваецца еўрасаюзнымі законамі.***

— Дзякую. Гэта вялікі поспех Карыцінскай гміны. Цяпер толькі нашыя вытворцы могуць прадаваць сыр пад назвай „карыцінскі свойскі сыр". Шматгадовыя намаганні папярэдзілі гэты поспех, на які працавалі наш войт Мечыслаў Лех, асяродак культуры і самі вытворцы. Сёлетняе свята сыру было сапраўдным святам *(смех)*. Мы, як арганізатары, стараліся, каб прайшло яно вельмі ўрачыста.

***— Якраз я была тады ў Карыціне і помню гэты натоўп людзей. Вялікай папулярнасцю карысталіся выступы гуртоў, а таксама даволі незвычайныя гульні.***

— Дакладна. Святу спадарожнічалі змаганні каманд з навакольных вёсак Бомблі, Крукоўшчыны і з самога Карыціна. Падрыхтаваны былі простыя гульні, напрыклад, якая каманда далей кіне цюком, або хто найхутчэй пракоціць цюк. Жанчыны мелі крыху іншыя задачы. Ім трэба было падаіць штучную карову на час, ці зручна зашыць падзёрты мяшок. Гэтыя гульні пэўна не былі спецыяльна элегантныя, але падабаліся. На маю думку, нічога не трэба ўдаваць. Мы тут усе з вёсак. Хочам, каб асабліва жыхары Карыцінскай гміны добра сябе адчувалі на мерапрыемствах, ладжаных намі, каб прыходзілі.

***— Хто перамог у гэтых гульнях?***

— Каманда з Крукоўшчыны выйграла 2 000 злотых. За гэтыя грошы вёска купіла электрычную пліту для святліцы.

***— Здаецца, што свята карыцінскага сыру і трускалкі на стала ўвайшлі ў культурны каляндар Карыцінскай гміны?***

— Так. Гэтыя прадукты з нашай гміны вядомыя на ўсёй Польшчы. Нават перад будынкам асяродка культуры стаіць скульптура трускалкавай прынцэсы. Гэта прыгожая дзяўчына, апранутая ў спадніцу ў выглядзе трускалкі. Так яе сабе тут уяўляем. Святы сыру і трускалкі паказваюць характар нашага раёна. Таксама невыпадкова на апошнім фестывалі выступіў беларускі гурт „Калінка" з Беластока. Я ўжо даведаўся, што трэба намнога раней заказваць беларускія гурты, так што ў наступным годзе напэўна выступіць іх у Карыціне больш.

***— Апрача гэтага, што запрашаеце беларускія гурты, робіце нешта ў гэтым напрамку, каб не хавацца са сваёй мовай і культурай?***

— Не мінула яшчэ нават два гады ад часу, калі я стаў дырэктарам асяродка культуры. Ведаю што не забудземся аб роднай мове. Гэтая гаворка была ў нас заўсёды, ніхто нам гэтай культуры сюды не прывёз. Пакуль яшчэ людзі карыстаюцца гутарковай мовай, няма чаго саромецца. Можа гэта не вялікі поспех, але ў ветраку, які стаіць пры аўтобусным прыпынку, ладзім рэгіянальную ізбу. Усё тое, што ўдалося сабраць да гэтага часу, хочам паказваць іншым, якія добра не ведаюць нашай ваколіцы.

***— Разумею, што гаворка ідзе пра розныя прылады, якімі людзі карысталіся даўней?***

— Так, але не толькі. Старэйшыя людзі самі прыносілі сюды, у асяродак культуры, капанькі, дзежкі, рэшаты. Сапраўды сабралася гэтага вельмі многа. Некаторыя дазвалялі нам уваходзіць на гарышча. Можна было пашукаць і нешта цікавае заўсёды ўдавалася знайсці. Будынак ветрака трохпавярховы. Хочам у адной зале падрыхтаваць месца, якое напамінала б выглядам пакоі ў даўніх хатах сялян гэтага раёна. Хочам як мага больш даведацца ад старэйшых людзей. Пры асяродку культуры дзейнічае хор пенсіянераў. Людзей, якія прыходзяць на рэпетыцыі, стараемся падпытаць як выглядала хата іх дзяцінства. Апрача таго збіраем старыя здымкі. Гэта таксама дапаможа нам пры стварэнні традыцыйнай сялянскай хаты.

***— Асаблівa для Вас такая хата вядомая? Хата, у якой гучыць нашая мова?***

— Вядомая вельмі добра. Сам я родам з Саколкі, маю дзядоў у вёсцы Падсуткі, гэта непадалёк Сідры. Мой бацька памёр даволі рана, таму я часта ездзіў да іх дапамагаць у гаспадарцы. Ад сваёй бабулі, ад дзедкі я навучыўся размаўляць па-нашаму. Хаця яны стараліся звяртацца да мяне на польскай мове, то паміж сабою ўжо ніколі ёю не карысталіся. Галоўным чынам дзякуючы ім магу я сёння з вамі так гутарыць.

***— Дзяцінства мінула Вам пад Сідрай, жывяце ў Саколцы, а працу знайшлі якраз тут, у Карыціне, тады калі кожны малады чалавек імкнецца паехаць у вялікі горад і там рабіць кар'еру.***

— Мяне заўсёды цягнула на вёску. Магу выявіць, што ў асабістых планах хачу пераехаць з Саколкі ў Драглі. Хаця мне трэба штодзень ехаць трыццаць сем кіламетраў сюды, у Карыцін, мяне гэта не стамляе. Я хачу сюды прыязджаць. Тут у мяне вельмі многа працы, планаў. Акружваюць мяне цудоўныя людзі. Думаю, што добра дзейнічаем як асяродак культуры ў такім калектыве. Гэта вельмі важнае, каб чалавек рабіў тое, што сапраўды любіць, тады работа яму не будзе цяжарам. Ведома, што не атрымліваем столькі грошай, каб хапала на ўсе нашыя патрэбы. Аднак стараемся ісці ў іншым напрамку. Мы ведалі, што дзеці з нашай гміны ніколі не ездзілі ў горы. Ведалі таксама, што некаторым з іх цяжка будзе паехаць туды ў будучыні. Таму сарганізавалі мы дабрачынную акцыю, знайшлі донараў. Зімой трыццаць дзяцей на тыдзень паехала ў горы. Амаль дарма. Штосьці трэба рабіць. Калі не хапае грошай, трэба шукаць, і яны знойдуцца. Яшчэ раз падкрэсліваю тое, што ў галіне культуры шмат работы, да якой патрэбныя людзі з энтузіязмам, захапленнем. Іншыя не будуць вартаснымі працаўнікамі.

***— Жадаю, каб Вам гэтага хапала. Дзякую за размову.***

# Самае важнае — дабро дзіцяці

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Цяжка паверыць, што пабудова дзіцячага садка доўжылася ўсяго 121 дзень. Тым больш ганарымся, што ў час, калі закрываюцца школы чаромхаўскі самаўрад пачаў пабудову. Інвестыцыя „Разбудова і мадэрнізацыя існуючай часткі школьнага будынка са зменай спосабу выкарыстання на прадшколе ў Чаромсе, гміна Чаромха" каштавала 1 004 702, 25 зл., а „Пабудова пандуса для інвалідаў і мадэрнізацыя лесвіцы пры ўваходных дзвярах у будынак Пачатковай школы ў Чаромсе, гміна Чаромха" доўжылася адно 47 дзён....





Урачыстасць здачы ў карыстанне і асвячэнне новага дзіцячага садка ў Чаромсе і пандуса для калясак інвалідаў пры ўваходных дзвярах да Пачатковай школы, праходзіла 16 кастрычніка 2012 года. Імпрэза адгукнулася моцным рэхам не толькі ў наваколлі, але і ў шматлікіх самаўрадавых установах. На інаўгурацыю былі запрошаны кіраўнікі гмін Гайнаўскага павета і мяжуючых Кляшчэляў, Нурца-Станцыі, Мельніка, Мілейчычаў ды Бельска-Падляшскага.

Мерапрыемства пачалося ў 13 гадзін. Ганаровых гасцей (на спіску знаходзілася 68 прозвішчаў) вітаў войт Чаромхаўскай гміны Юры Шыкула. Урачыстасць удастоілі віцэмаршалак Падляшскага ваяводства Мечыслаў Башко ды ваяводскія радныя Генрык Лукашэвіч і Мікалай Яноўскі, куратар асветы Ежы Кішкель, староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук, старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк, бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, войты — Гражына Яшчук з Мілейчычаў і Раіса Раецкая з Бельска-Падляшскага, старшыня рады Гміны ў Чаромсе Надзея Суліма, дэкан Гайнаўскага дэканата Драгічынскай дыяцэзіі кс. Збігнеў Нямыйскі, благачынны Кляшчэлеўскага благачыння а. Мікалай Келбашэўскі, настаяцель а. Юры Пліс і вікарны а. Мікалай Беламызы з Чаромхі, настаяцелі а. Рыгор Наўмовіч з Кузавы і а. Рыгор Астапковіч з Зубачоў і кс. Генрык Каліноўскі з Чаромхі, затым прадстаўнікі шматлікіх устаноў, Грамадзянскай платформы і „Салідарнасці" з Гайнаўкі і Беластока, кіраўнікі сектараў гміннай адміністрацыі, радныя і солтысы пасобных вёсак Чаромхаўскай гміны і школьная моладзь.

— „Дзіця мае права на сур'ёзнае стаўленне да яго спраў", „Дабро дзіцяці самае важнае", „Калі дзіця смяецца, смяецца ўвесь свет" — гэтыя слаўныя цытаты сцвярджаюць найбольшую мэтазгоднасць і трапнасць прынятых рашэнняў і выкананне згаданых інвестыцый чаромхаўскім самаўрадам, — канстатаваў войт Юры Шыкула ў пачатках свайго выступлення. — Тое, што выконваем спадзяванні дзіцяці ў 2012 годзе, годзе Януша Корчака — духовага апекуна дзяцей і пачынальніка дзеянняў у карысць дзяцей, тым больш нас цешыць...

Наконт рэалізацыі задач гміны прамоўца сказаў наступнае:

— Першая інвестыцыя, якая тычыцца дзіцячага садка, каштавала 1 004 702, 25 зл. Агульная плошча будынка складае 343,24 квадратных метраў, кубатура — 1807,5 кубаметра. Выканаўцам была фірма Кшыштафа Боўтрыка з Гайнаўкі. Пабудова пандуса для інвалідаў абышлася гміне сумай 101 334,30 зл., прытым пакарысталіся 40-тысячнай датацыяй з Дзяржаўнага фонду рэабілітацыі інвалідаў. Выканаўцам была фірма Веслава Шаршуновіча з Заблудава. Зараз карыстаемся бяспечным камунікацыйным ходам, які дазваляе спраўна перамяшчацца ўсім карыстальнікам школы штодзень. Дашкольнікі, як і вучні, маюць падобныя ўмовы як іх равеснікі ў вялікіх гарадскіх агламерацыях. Спадзяюся, што гэта паўплывае на выінкі адукацыі ў нашай школе. Зараз у Школьна-дашкольным комплексе ў Чаромсе вучыцца 304 дзетак і школьнікаў. У гімназіі, якая змяшчаецца ў асобным будынку — 91 вучань, у школе — 150 і прадшколлі — 63 дзетак, у тым ліку 3-4-годкаў — 23; 5-годкаў — 21 і 6-годкаў — 19.

У ходзе далейшай прамовы войт выказаў падзяку мясцовым радным за зразуменне і падтрымку ідэі выканання інвестыцыі, гміннай адміністрацыі — за добрасумленнае выконванне службовых абавязкаў, а выканаўцам — за тэрміновую здачу ў карыстанне новых аб'ектаў:

— Дзякую тым, хто абсталёўваў садок, асабліва дырэктару школы Марыёлі Шыманчук і віцэ-дырэктару Ірэне Вішанка, як і ўсім працаўнікам школьнай адміністрацыі. Ваша сумленная штодзённая праца — залог належнага функцыянавання аб'ектаў. Толькі супольныя імкненні і ўзаемнае зразуменне, пашана і згода змогуць гарантаваць станоўчую адукацыю, апеку і выхаванне дзяцей і моладзі, — завяршыў прамову войт Юры Шыкула. Затым прыбавіў: — Гэта мы разам, настаўнікі супольна з бацькамі, павінны задбаць пра поўнае і станоўчае развіццё дзяцей, бо „такія будуць Рэчы Паспалітыя, якое іхняй моладзі выхаванне".

Пасля выступлення войта голас бралі прадстаўнікі ваяводскіх і павятовых самаўрадаў, якія з нагоды наваселля ўручалі дырэктару Школьна-дашкольнага комплексу Марыёлі Шыманчук падарункі. Супольны малебен адслужылі благачынны а. Мікалай Келбашэўскі і дэкан кс. Збігнеў Нямыйскі, затым абодва здзейснілі чын асвячэння пандуса для калясак інвалідаў і прадшколля. Удзельнікі мерапрыемства следам святароў падаліся наведаць новае прадшколле. У мастацкай частцы, якая адбылася ў гімнастычнай зале, з багатым рэпертуарам выступілі дзеткі і школьная моладзь. Імпрэза закончылася традыцыйным банкетам для запрошаных гасцей.

## Святкаванне ў Белавежы

Здаецца, нядаўна пачаўся навучальны год. Аднак мы ўжо паспелі прасвяткаваць кастрычніцкае школьнае свята.

Традыцыйна з нагоды Дня нацыянальнай адукацыі ў школах адбываюцца святочныя лінейкі. У гэтым годзе 14 кастрычніка выпала ў нядзелю і таму ў Школьна-дашкольным комплексе ў Белавежы святкаванні перанеслі на пятніцу, 12 кастрычніка.

Незвычайнасць гэтага дня падкрэслівала перш за ўсё тое, што заняткі былі скарочаныя. Гэта быў напэўна прыемны прэзент для вучняў. Каб адзначыць тое, што гэта свята не толькі настаўнікаў і працаўнікоў асветы, але ў такой жа меры і школьнікаў, педагогі вырашылі ў гэты дзень не правяраць ведаў сваіх выхаванцаў і не ставіць ім ацэнак. Кожнага, хто ў гэты дзень пераступіў парог школы, прывітала прыгожая дэкарацыя з вісячымі каляровымі алоўкамі.

Для ўсіх, якія штодзённа прыходзяць у школу, каб працаваць або вучыцца, прапанавалася лінейка. Падрыхтавалі яе вучні другога класа гімназіі пад вокам сваёй выхавацелькі Іаанны Яганаў. Спачатку мы пазнаёміліся, дзякуючы мультымедыйнай прэзентацыі, з гісторыяй Камісіі нацыянальнай адукацыі ды



школьніцтва ў Польшчы. Прадставіў яе вучань Тамаш Шыманоўскі, які таксама падрыхтаваў прэзентацыю. Пазней мы пачулі вершы ды жарты пра школу ды настаўнікаў. У час выступлення не абмінулі настаўнікаў-пенсіянераў. Вучні ахвотна ўвайшлі ў ролю старэйшых людзей ды жартавалі, што цяпер вушы трымаюць у кішэні, вочы на шафачцы, а зубы ў шклянцы. На „тэатральным" школьным калідоры не абышлося без прыбіральшчыцы. Яна як штодзень наракала на вучняў, якія страшэнна брудзяць ды не звяртаюць увагі на яе работу. Іншыя вучні мелі магчымасць адыграць ролю настаўніка. А некаторым школьнікам марыцца тое ў час заняткаў. У кароткіх сцэнках з жыцця школы мы пабачылі, між іншым, урок польскай мовы, а ў час перапынку мы маглі зазірнуць у настаўніцкі пакой — адзінае бяспечнае ды ціхае месца для настаўнікаў.

На заканчэнне ўрачыстасці ўсе працаўнікі ды школьнікі атрымалі зычэнні ад дырэкцыі школьна-дашкольнага комплексу ды яшчэ ад прадстаўніка бацькоўскага савета. Кожны працаўнік школы атрымаў ад вучняў кветку — прыгожую чырвоную ружу. Тыя, каго вучні асабліва цэняць, атрымалі дадатковыя кветкі ўдзячнасці і падзякі.

На асалоду настаўніца, якая рыхтавала лінейку, запрасіла працаўнікоў школы на салодкі пачастунак. Матэматычна-фізічны клас змяніўся ў прыемную банкетную залу. На сталах, засцеленых белымі абрусамі, сталі кветкі ды гарэлі свечкі. Пахла прыемна. Можна было ў святочнай атмасферы выпіць каву ці гарбату, пасмакаваць дамашніх выпечак ды пагутарыць, між іншым, пра экскурсію з нагоды Дня нацыянальнай адукацыі ў Казімеж-Дольны, на якую збіраліся паехаць белавежскія школьныя працаўнікі.

**Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ**

# зорка
для дзяцей і моладзі




Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl



Фота Ганны Кандрацюк

# Як бедны мужык гусей дзяліў.

Жыў адзін бедны мужык. Зіму сяк-так перакідаўся. А прыйшла вясна — хоць зубы на паліцу кладзі. Адна гуска засталася, ды і тая худая.

— Занясу, — кажа мужык жонцы, — я гэтую гуску пану. Можа, ён дасць за яе крыху жыта. А там лебяда вырасце — як-небудзь і перакідаемся да новага хлеба.

— Добра, — адказвае жонка, — нясі. Нам з гускі мала карысці: без хлеба — і мяса не яда.

Зарэзаў бедны мужык гуску, аскуб і прынёс да пана.

— Што хочаш за яе? — пытаецца пан.

— Дорага з пана не вазьму, — адказвае мужык. — Дасі гарцы са два жыта...



Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Пан падумаў: гуска хоць і худая, але недарагая.

— Ну, добра, — кажа, — куплю тваю гуску. Але падзялі ты яе на маю сям'ю.

— А якая ў пана сям'я? — пытаецца мужык.

— Я, пані мая, два сыны і дзве дачкі.

Мужык падумаў і кажа:

— Пан — галава сям'і, пану і выдзелім галаву. Пані — першая пасля пана асоба — ёй няхай шыйка будзе. Сынкі падрастуць трошкі, ды пойдуць таптаць бацькоўскія дарожкі — ім няхай будуць ножкі. А дочкам — па крылу, каб хутчэй замуж з дому вылядалі.

— А рэшта каму? — пытаецца пан.

— А рэшта мне за тое, што падзяліў, — адказаў мужык.

— Ну і хіцёр жа ты, мужык! — дзівіцца пан. — Удала падзяліў. Нічога не скажаш.

Аддаў пан мужыку гуску і яшчэ мех жыта ў прыдачу.

Ідзе мужык дахаты, пасвіствае.

Даведаўся пра гэта яго сусед, багаты мужык. Схапіў ён пад пахі цэлых пяць адкормленых гусак і — да пана.

— Вось, — кажа задыхаўшыся, — прынёс табе, панок, пяць гусак. Дай мне за іх пяць мяхоў жыта.

Пан кажа:

— Добра, дам табе пяць мяхоў жыта. Але падзялі ты гэтых гусак на шэсць душ маёй сям'і.

Дзяліў, дзяліў багаты мужык гусак — нічога не выходзіць. А тут якраз недалёка бедны мужык праходзіў. Пан паклікаў яго.

— Падзялі ты гэтых гусак, — кажа, — на шэсць душ маёй сям'і. Бо твой сусед зусім бесталковы — не можа падзяліць пяць гусак на шэсць душ.

— Ну, дык будзем дзяліць. Пан, пані і гуска — тройца. Два панскія сынкі і гуска — яшчэ адна тройца. Дзве панскія дачкі і гуска — трэцяя тройца. А я і дзве гускі — таксама тройца.

— Ну, бачыш, — кажа пан да багатага мужыка, — як трэба дзяліць?

Аддаў пан беднаму мужыку дзве гускі, а багатага выгнаў вон.

## Конкурс пра восень (33)



Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які горад у Італіі наведаў гурт „Капрыс"?**

а) Рым,
б) Мілан,
в) Венецыю.

**2. У якой мясцовасці адкрылі новы стадыён?**

а) у Чаромсе,
б) у Шудзялаве,
в) у Орлі.

**3. Хто найлепшы сябра (паводле прыказкі)?**

а) той, хто гуляе з табой у камп'ютарныя гульні,
б) той, хто кажа праўду,
в) той, хто цудоўна пра ўсё апавядае.

Адказы дасылайце да 30 лістапада 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**ЗОРКА**

## Прыказка

### Сяброўства
(беларуская прыказка)

Не той сябра,
хто мёдам мажа,
а той, хто праўду кажа.

## Вершы Віктара Шведа

### Нам патрэбны стадыён

Адкрываем стадыён,
Надта нам патрэбны ён.
Запланаем напачатку
Тут займацца фіззарадкай.

Вельмі нам патрэбны спорт,
Хочам тут пабіць рэкорд.
І на стадыёне гэтым
Вырасцім лёгкаатлетаў.

А вяршыняй спорту школ
Будзе заўсягды футбол.
І ірамі на стадыёне
Гонар Орлі абаронім!

# „Капрыс” дацанілі ў Еўропе!






Бываюць у жыцці мастацкія падарожжы, якіх не забываем. Іх успаміны, з прысмакам шчасця, грэюць у час дажджлівых адвячоркаў і халодных раніц, калі трэба ў школу...

Вось такі незабыўны і радасны ўспамін прывёз наш „Капрыс” з Бельска-Падляшскага. У днях 10-16 верасня г.г. пабывалі яны на V Сусветным карнавале моладзі „Арфей у Італії”, які праходзіў у мясцовасці Лідо дзі Езола (Lido di Jesolo). Дзявочы беларускі гурт заваяваў там першае месца!

А канкурэнцыя была не абы-якая. На сцэне з'явіліся прадстаўнікі 14 дзяржаў: Азербайджана, Беларусі, Балгарыі, Грузіі, Ізраіля, Італіі, Літвы, Мальты, Малдовы, Польшчы, Румыніі, Расіі, Швецыі ды Турцыі. Спевакоў ацаняла міжнароднае журы. Апрача самога конкурсу дзяўчаткі выступалі яшчэ на міжнародных вечарынах, якія нярэдка цягнуліся пад поўнач. І гэта не ўсё! Нашы сябры наведалі яшчэ Венецыю, плавалі параходам, загаралі на сонечным міжземнаморскім пляжы. І вядома, пазнаёміліся з аднагодкамі з розных бакоў свету. Разам з дзяўчатамі пабывала іх музычная апякунка спадарыня Анна Вярцінская ды настаўніца Барбара Скепка, а таксама „добрыя духі” з Варшавы ў асобах журналіста Аляксандра Палаца і музыканта Крыстыны Пятроўскай.

— А якія песні вы спявалі ў час конкурснай часткі? — спыталі мы ў мамы „Капрысу” пані Анны Вярцінскай.

— Вядома, беларускія, — адказала яна. — У нашым рэпертуары толькі беларускія песні...

І дадала:

— І выступалі ў новых касцюмах, якія якраз атрымалі з Беларусі.

Поспех бельскіх дзяўчат пераламаў пэўны стэрэатып: вось яны, прадстаўнікі Польшчы, заваражылі Італію беларускім спевам (выступалі як прадстаўнікі нацыянальнай меншасці). Тут спрацавала адвечная праўда: каб быць цікавым і прыгожым — трэба заўсёды быць сабой і верным свайму асяроддзю. Наш „Капрыс” належным чынам ацанілі ў свеце за гэта!

ЗОРКА

Фота Анны ВЯРЦІНСКАЙ

## Загадка

(адказы дашліце ў „Зорку” да 15 лістапада г.г., найлепш па электроннай пошце).

Дуб-дубавін,
Дванаццаць галін.
На кожнай галіне
Чатыры гняздзіны.
У кожным гняздзечку
Па сем яечкаў.
Кожнае мае
Сваё імя.
Хто аддгадае —
Што за сям'я?

*В. Вітка*

## Рашэнне загадкі пра казу, ваўка і капусту (з „Зоркі” № 42)

У адказ вучні даслалі не толькі розныя (правільныя) адказы, а яшчэ конкурс натхніў іх да мастацкіх і графічных распрацовак тэмы.

Найбольш вучняў даказвала, што мужык, каб перавезці казу, ваўка і капусту (так, каб яны сябе не з'елі) павінен ездзіць аж сем разоў. Па чарзе: гаспадар спачатку перавязе казу на другі бераг ракі і вернецца па ваўка. Калі перавязе ваўка, забярэ назад казу і паплыве з ёй па капусту. Там выставіць казу і возьме капусту. Пасля вернецца па казу і ўсе будуць разам.

Другі, вельмі просты і практычны спосаб такі: гаспадар перавязе казу, і вернецца па ваўка, а капусту засадзіць сабе за кашулю, каб яна выглядала як жывот і не мяшала ў час веславання. Можа таксама прывязаць яе на плечы ваўку. Падумайце — так жа робім і мы, калі трэба справіцца з цяжкай задачай і чым хутчэй хочам яе закончыць.

Узнагароду, фірмавую аўтаручку „Parker” выйграла **Аня Бляўская з Нараўкі**. Віншуем!

Словы Міры Лукшы

## Не забудзем хаткі

Адзвінелі косы, лета адплыло
і восень дажджліва стукае ў акно.
Але ў нашых сэрцах не гасне святло,
бо вокнамі свеціць наш бацькоўскі дом.

*Прыпеў:*
Не забудзем хаткі
ў квецені садоў,
не забудзем бабкі,
не пакінем слоў.
Не забудзем хаткі
і сцежкі дамоў.
І не толькі ў свята
вернем ім любоў.

З'ехалі далёка мы ад родных ніў,
хто за хлебам ехаў, а каго гнаў лёс,
хто далей, хто бліжай гняздо сваё звіў,
і кожны з нас з вамі сваю праўду нёс.

У вёсцы бабуля пільнуе агонь.
Лёс наш вышывае на родным радне.
Сабака, кароўка, кот, свіння і конь
з гаспадыняй разам на малюнку ўсе.

Чакаюць нас хата, дарога і плот,
сцежка па-за клуняй, стары агарод,
для нас сад штогоду вырошчвае плод.
Бабулі ахоўваюць наш увесь народ.

**Спявае гурт „Вясна” з Беластока**

## Польска-беларуская крыжаванка № 45

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 40:

Ток, тавар, леў, лянок, арт, вінаград, дом, абы, Ака, Рым, Ас. Калідор, вянок, Панама, рог, крылы, ер, кладка, аўтобус.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы”, выйгралі **Кася Лукашук** з Бельска-Падляшскага і **Патрыцыя Бядрыцкая** з Нараўкі.



Размова з СЯРГЕЕМ ЛУКАШУКОМ, шматгадовым дырэктарам Бельскага дома культуры і аніматарам беларускай культуры, які ад пачатку лістапада перастаў займацца прафесійна ў БДК і выйшаў на пенсію.

# Сяргей Лукашук — аніматар беларускай культуры

***— На пасадзе дырэктара Бельскага дома культуры Вы працавалі ажно з 1975 года. Раней былі віцэ-дырэктарам і дырэктарам бельскай «тройкі», непасрэдна перад Васілём Ляшчынскім.***

— Мой прафесійны шлях распачаўся раней, бо адбыўшы вайсковую службу я з 1966 года, праз 4 гады, працаваў кіраўніком Пачатковай школы ў Галадах. З 1968 года даязджаў з Галадоў у Бельск, дзе на акардэоне састаўляў акампанемент для «Васілёчкаў», а з 1970 года стаў мастацкім кіраўніком гэтага калектыву і ў гэтым жа годзе пачаў працаваць у Беластоку кіраўніком культурна-асветнага аддзялення Галоўнага праўлення БГКТ. Толькі ў 1972 годзе я перайшоў на пасаду віцэ-дырэктара бельскай «тройкі» і з верасня 1974 года стаў дырэктарам гэтай школы. Коратка працаваў я на гэтай пасадзе, бо ў канцы гэтага ж года бельскія ўлады запрапанавалі мне пасаду дырэктара Павятовага дома культуры ў Бельску. З пачаткам студзеня 1975 года я стаў дырэктарам дома культуры, які праз год памяняў сваю назву на Бельскі дом культуры, якая захавалася па сённяшні дзень.


Фота Аляксея МАРОЗА

***— Пры Вашым кіраванні дом культуры ставіў націск на развіццё беларускай культуры ў Бельску і наваколлі.***

— У сямідзесятых гадах арганізаваліся ўжо конкурсы «Беларуская песня» і наш дом культуры ў час майго дырэктарства пастаянна ладзіў раённыя агляды гэтага конкурсу. Пазней сталі ладзіцца ў нас агляды беларускіх тэатральных калектываў, пачалі арганізавацца дэкламатарскія агляды з беларускім рэпертуарам. Дзейнічалі ў нас беларускія калектывы — «Васілёчкі», «Маланка», «Куранты», тэатральны калектыў «Антракт», які выступае з пастаноўкамі на нашай мове, а беларускія калектывы, якія я вёў у белліцэі і бельскай «тройцы», таксама рэпетаваліся ў нашым доме культуры. Ладзілі мы ў нас таксама іншыя беларускія мерапрыемствы — «Багаты вечар», «Запусты». Пачынаючы з дзевяностых гадоў мы з'яўляемся суарганізатарамі «Спасаўскіх запустаў», а па вераснях ладзім беларускія народныя фэсты.

***— На пасадзе дырэктара БДК Вы перапрацавалі каля 38 гадоў. Якія іншыя мерапрыемствы ў доме культуры былі для Вас важнымі і дарагімі?***

— З 1976 года, ужо пры маім дырэктарстве, пачалі мы ладзіць Дні Бельска-Падляшскага і па-за трохгадовым перапынкам ладзім іх да сённяшняга часу. Гэта самае вялікае і прэстыжнае нашае мерапрыемства, у час якога выступаюць таксама беларускія калектывы. Маёй марай было пачаць ладзіць новыя агульнапольскія, а нават міжнародныя мерапрыемствы і гэта нам удалося. У Агульнапольскім фестывалі калядак і пастаралак «Кантычка» выступалі таксама нашыя калектывы, а ў Міжнародным фестывалі «Падляшская нота» спявалі нашыя беларускія калектывы і калектывы з Беларусі і Літвы. Па ініцыятыве Альжбеты Фіёнік мы пачалі арганізаваць Дэкламатарскі конкурс «Паэтычнае трохгалоссе», дзе вучні дэкламуюць творы перш за ўсё на трох мовах — польскай, беларускай і ўкраінскай, але таксама чытаюць і на нашай бельскай гаворцы, ці расійскай мове. Гэты конкурс карыстаецца ў нас вялікім поспехам і ў гэтым годзе выступіла ажно больш за сто ўдзельнікаў. Дзеткі з усіх бельскіх прадшколляў гаварылі вершыкі пабеларуску і на беларускай мове выступалі сёлета не толькі вучні з нашай «тройкі», ці белліцэя, але таксама з іншых бельскіх школ. Важнай для нас з'яўляецца дзейнасць Студыі песні «Фарт», вучні якой спяваюць таксама і па-беларуску. Ладзім мы агульнапольскія агляды мастацтва, арганізуем сустрэчы ў рамках праекта «Твары вядомыя і невядомыя», на якія запрашаем ураджэнцаў Бельска або людзей, звязаных нейкім чынам з нашым горадам, якія дабіліся поспехаў у сваім жыцці ў розных дзеяннях.

***— На пасаду дырэктара Бельскага дома культуры Вы трапілі невыпадкова. Спачатку разгортвалі свае музычныя здольнасці як самавук з Градалёў, а пасля здабылі музычную адукацыю ў вышэйшай установе. Вы былі падрыхтаваны да працы як аніматар культуры.***

— Ужо ў час вучобы ў Пачатковай школе ў Пашкоўшчыне я іграў на акардэоне, а ў час вучобы ў Педагагічным ліцэі ў Бельску я на акардэоне іграў у капэле Калектыву песні і танца «Падляшша». Вышэйшую адукацыю здабываў я пачынаючы з 1971 года ў Дзяржаўнай вышэйшай музычнай школе ў Варшаве, дзе вучыўся іграць перш за ўсё на акардэоне, фартэпіяна і флейце.

***— Музычныя здольнасці Вы маглі выкарыстаць як музычны кіраўнік «Васілёчкаў», «Маланкі» і музычны апякун беларускіх школьных гуртоў.***

— З «Васілёчкамі» я займаўся як музычны кіраўнік на працягу 20 гадоў. З «Маланкай» працую ўжо 22 гады. Дакінуўшы да гэтага яшчэ, што перад 1970 годам я некалькі гадоў састаўляў акампанемент на акардэоне для «Васілёчкаў» то выйдзе, што я з беларускімі калектывамі займаюся ўжо каля 45 гадоў. За гэты час выступалі мы на сцэне з разнародным беларускім рэпертуарам. З 1976 па 2010 год, праз 34 гады я вёў у белліцэі «Дзявочыяноткі» і ў гэтым часе займаўся таксама з іншымі беларускімі дзіцячымі і маладзёжнымі калектывамі. У «тройцы» працаваў з «Журавінкай», «Жучкамі», «Нашымі дзеткамі» і «Іскеркамі», а ў белліцэі займаўся яшчэ з «Крынічкай». Праца з дзеткамі і моладдзю давала многа задавальнення. Ваяводскі асяродак анімацыі культуры з Беластока па ініцыятыве тадышняга дырэктара Казімежа Дэркоўскага ладзіў мерапрыемствы для інструктараў культуры, якія займаліся з калектывамі. У 1988 годзе ў нашым доме культуры арганізавалі мы музычную сустрэчу, у час якой выступілі на сцэне ажно 5 згаданых мною калектываў, дзейнасцю якіх я кіраваў і тэрцэт «ДББ», з якім я таксама займаўся.

***— У лістападзе тэатральны калектыў БДК «Антракт» будзе адзначаць 15-годдзе сваёй дзейнасці. Як бы Вы ацанілі гэтую форму тэатральнай дзейнасці ў доме культуры пад наглядам Альжбеты Фіёнік, між іншым, з беларускім рэпертуарам?***

— Альжбета Фіёнік працуе інструктарам па беларускіх справах, вядзе ў нас беларускія мерапрыемствы, стварыла і вядзе тэатральны калектыў «Антракт», які цікава і на высокім узроўні ставіць многа пастановак на нашай бельскай гаворцы. Са жніўнымі абрадамі пастаянна выступае ён у час «Спасаўскіх запустаў», пасля летніх майстар-класаў, апошнім часам арганізаваных з удзелам дзетак з Беларусі. Альжбета Фіёнік ладзіла для настаўнікаў курсы па дэкламацыі, якія з боку педагогаў карысталіся зацікаўленнем.

***— У Бельскім доме культуры дзейнічаюць таксама іншыя кружкі.***

— Зараз у нашым доме культуры дзейнічае 6 музычных калектываў, тэатральны, мастацкі і танцавальны кружкі. Мы ладзім прыблізна пад 150 розных мерапрыемстваў у год. Трэба за ўсім даглядаць і я як дырэктар БДК мусіў быць таксама юрыстам і спецыялістам па фінансах, бо нёс я адказнасць за ўсю дзейнасць дома культуры.

***— Вы таксама вядомы бяльшчанам, як гарадскі радны ад Беларускага выбарчага камітэта, а пасля як радны ад Бельскай кааліцыі, у якую ўвайшоў Беларускі камітэт.***

— У пачатку дзевяностых гадоў было ў Бельску вялікае заангажаванне ў самаўрадавую дзейнасць. Людзі гарнуліся да грамадскай працы і хацелі мяняць горад у рамках самаўрадавай дзейнасці. Нам, беларускім радным з Беларускага камітэта і Бельскай кааліцыі, удалося многа памяняць на лепшае ў горадзе і ў Бельскім павеце.

***— Вашыя дачка і сын таксама карыстаюцца ў сваім жыцці музычнымі здольнасцямі.***

— Я рады, што мае дзеці таксама пайшлі музычным шляхам. Дачка вядзе на вялікім узроўні хор гімназістаў і ліцэістаў у Ольштыне, а сын іграе ў музычным калектыве. Карыстаюцца яны музычным матэрыялам, які я сабраў ідучы праз жыццё з музыкай. Таксама цікавіць іх беларуская музыка.

***— Ці, адпачываючы на пенсіі, маеце намер займацца яшчэ з «Маланкай», а можа ў Вас іншыя цікавыя планы на вольны час у бліжэйшы перыяд?***

— У 2015 годзе «Маланка» будзе адзначаць 25-годдзе сваёй дзейнасці і я хацеў бы яшчэ займацца з калектывам да гэтага часу. Зараз мы запісваем песні для чарговага кампакт-дыска. Перастаўшы займацца прафесійна, хачу спачатку адпачыць ад дырэктарскіх і іншых службовых заняткаў. Ёсць у мяне планы наконт актыўнасці ў Чахах-Забалотных, у бацькаўскай хаце маёй жонкі і на прысядзібным участку. Па-за рамонтам даху, які выканалі нанятыя майстры, я сам адрамантаваў дом і зараз рамантую хлеўчык. З дзяцінства маёй марай было займацца сталярнымі работамі і можа нават гэтая пасія ў мяне яшчэ большая, чым любоў да музыкі. Зараз буду мог займацца маім любімым сталярным рамяством, каб толькі здароўе не падвяло.

***— Дзякую за размову і жадаю заслужанага адпачынку на пенсіі.***

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

# За Бельскам

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Вуліца ў Мокрым



**Злажу з аўтобуса ў Кнарыдах. Надвор'е не надта спрыяльнае, дзьме дакучлівы вецер. Чацвёрку пасажыраў, што высадзіліся разам са мною, хутка паглынае вясковая забудова. Кіруюся на ўсход, у тым напрамку, адкуль у Кнарыды мела пралегчы новая дарога з боку нядаўна пабудаванай мэблевай фабрыкі з брэндам Ікея. Але тут, у Кнарыдах, не відаць ніякіх перамен, ніякіх падарункаў, якія меў сюды прынесці гэты шведскі Санта-Клаўс.**

Дарога ў напрамку Мокрага, у напрамку Дубяжына і Кошак, трымае надалей тыя стандарты, якія атрымала ў час яе сацыялістычнага будаўніцтва — нясе яна на сабе жвіровы насціл. Неўзабаве за Кнарыдамі шмыгае яна ў лес, які ў сваіх уладаннях не дазваляе разгуляцца свавольнаму ў той дзень ветру. У лесе, што паміж Кнарыдамі і Мокрым, ціха і ўтульна, да ўсяго гэтага паказваецца яркае сонца. Там наступаючая восень зладзіла выстаўку свайго ляснога мастацтва, расклаўшы лісцевы дыван, які паказвае ўсе найярчэйшыя колеры з таго спектра, якія адведзены для гэтай пары года.

А мне навейваецца думка пра ўзаемаадносіны росквіту і дэкадансу. Падазраваю, менавіта, што тая лясная прыродная выстава па дарозе з Кнарыд у Мокрае магчымая цяпер толькі таму, што ў еўрапейскае эканамічнае жыццё завітаў крызіс. Бо калі б не ён, здаецца мне, дык на месцы той візуальнай раскошы, якую расклала прырода па гэтай лясной дарозе, ляжаў бы ўжо бяздушны асфальт, па якім машыны валачылі б свае паліўныя і акустычныя выхлапы. Ды і ў шырокім свеце пачэснае месца займае думка, што прыпыненне гонкі за матэрыяльным дабрабытам спрыяе рэфлексіі, спрыяе ўзбагачэнню эстэтычнага дабрабыту.

Але восень мае не адно аблічча. Раздаецца ціхая ўверцюра ў выкананні прыродных ударных інструментаў: па найбольш упартых лісцях, што не падаюцца немінучаму лёсу і ўсё яшчэ трымаюцца галінак сваіх родных дрэў, быццам маленькія кенгуру сваіх сумак, пачынае нешта нясмела барабаніць. А гэта восень далікатна напамінае, што пара ўжо таму лістоўю канчаць буяніць пад аблокамі, што трэба ўжо апусціцца на зямельку для вечнага там спачыну.

Акурат выходжу з лесу на прастору, з якой паказваецца вёска Мокрае. З канцом лесу канчаецца і ягоны „пакроў" ад ветру. Ды не толькі — хаваецца сонца, а з неба пачынаюць сыпацца штораз гусцейшыя белыя крапінкі. Восень паказвае сваё другое аблічча — не ярка-залацістае з пунсовымі дадаткамі, але бясколерную шэрую дзялянку адведзенага ёй спектру. Аднак гэты прыродны перформенс нетрывалы і канчаецца разам з раставаннем прынесенага ім снегу. На нябесную сцэну зноў вяртаецца сонца ды і вецер саступае са сваёй ранейшай нагласці.

Этымалогія назвы паказаўшайся мне вёскі нескладаная — вёска Мокрае пасаджана на сырым грунце, вакол вёскі прыродныя сенажаці, а ейную сярэдзіну перасякае ручай, паблізу якога абочыны вуліцы ўпрыгожвае крапіва.

Агульны выгляд вёскі не нясе мажорнага настрою. Мокрае — гэта даволі працяглая вуліцоўка, якая доўжыцца амаль два кіламетры. Зараз забудова там не ўсюды кампактная, ёсць прабелы. Ды не толькі прасторавыя прабелы там прысутныя — у існуючай забудове відаць і пасяленчыя прабелы — не ўсе хаты абжытыя. Па забудове відаць, што жыхароў Мокрага не спакушала думка разжывацца ў роднай вёсцы — няма ў ёй высокіх мураванак, тых вясковых палацаў, якія некаторыя земляробы ўзводзілі ў іншых нашых вёсках. Магчыма, што паўплывала на гэта блізкасць Бельска, перспектыва выгаднага гарадскога жыцця. Выглядам вылучаецца адна драўляная хата, пустая з выгляду, з абярэгам у выглядзе вялікага драўлянага ўсходняга крыжа перад ёй, з высечанай на ім помслівай замовай...

Вуліца вымашчана брукам, даволі роўным, што сведчыць, мабыць, не толькі пра стараннасць яго ўкладальнікаў, але і пра адсутнасць большай нагрузкі на яго, адсутнасць цяжэйшага транспарту, у тым ліку і сучаснага сельскагаспадарчага. Па вёсцы не чуць было характэрнага паху буйнейшай гадоўлі жывёлы, на адной з паш сілкаваўся невялікі статачак кароў, а між вёскай і тамашнімі могілкамі пасвіліся яшчэ дзве адзінокія кароўкі. На запушчаным даволі абшырным будынку пункту прыёму малака захавалася яшчэ „дамлекавітная" шыльда бельскага малочнага завода.

У цэнтры вёскі нізкі мураваны будынак з гаражным адсекам і сігнальнай сірэнай наверсе — пажарнае дэпо са святліцай, з „памаляванымі" сырасцю сценамі. Аднастворкавыя вокны былі лёгка адкрыты, аднак усярэдзіне нікога не было. Неўзабаве ўдалося мне загаварыць з жанчынай з адлеглаватага ад таго дэпо панадворка, якая сказала, што вясковая святліца рамантуецца і той рамонт цягнецца ўжо шмат часу. Святліца прадбачваецца для сходаў і ладжання сямейных урачыстасцей; на першым месцы назвала яна пахавальныя абеды. На маё пытанне пра дзяцей у школьным узросце адказала яна, што цяпер такіх няма, але нядаўна яшчэ былі. А гэта абазначае, карыстаючыся адміністрацыйнай тэрміналогіяй шасцідзесяцігадовай даўнасці, што вёска Мокрае стопрацэнтна выканала пастаўкі свайго маладога насельніцтва ў гарады...

З Мокрага ў Дубяжын каля паўкіламетра. На акраіне Дубяжына з боку Мокрага будынак млына, пастаўленага ў даваенны час, распрыватызаванага „народнай" уладай, які яшчэ быў узнавіў пазней сваю дзейнасць на некалькі гадоў, а цяпер дзеліць лёс многіх падобных яму сельскагаспадарчых аб'ектаў, што ў цяперашніх гаспадарчых рэаліях страцілі сваю рацыю быту.

У Дубяжыне працуе крама, якая больш за гандлёвыя функцыі выконвае функцыю грамадскага клуба, дзе збіраецца народ, які больш цэніць жывое слова, чым мнагаслоўе тэлевізійных гаварыльняў. Паблізу крамы дзве святліцы, але ж гэта ў цяперашніх вясковых рэаліях толькі месцы для вялікага звону. А ў краме заўсёды нехта ёсць, з кім у кожны момант можна перакінуцца словам і пачуць найбольш істотныя навіны не з далёкай „варшаўкі" ці іншага Бруселя, але з дакранальнага наваколля.

Дубяжын мяжуе цераз масток на Белай з прыхадскім Падбеллем. Падбелле гэта зараз па сутнасці амаль чыста тапаграфічны тэрмін. Калісь быў там маёнтак, які ў выніку розных грамадскіх завірух знік з паверхні зямлі. Да Студзеньскага паўстання гаспадарыў у ім польскі пан, якога пасля паўстання замяніў расійскі памешчык. У той час у Падбеллі стаяла старэнькая Праабражэнская царква і новы ўладальнік рашыў пабудаваць новую; у выніку ягоных захадаў новы Ільінскі храм быў узведзены ў 1876 годзе. А старэнькая царкоўка згарэла 55 гадоў пазней, у 1931 годзе. Але не толькі царкву, што стаіць у Падбеллі па сённяшні дзень, узвёў расійскі пан. Пабудаваў ён каля двара, побач ранейшай царквы і сваю сямейную грабніцу, у якую ў царскі час былі пахаваны два пакойнікі. Мураваную грабніцу вяршылі адзін вялікі купал і чатыры меншыя. Паны ў 1915 годзе адправіліся ў Расію, адкуль ужо не вярнуліся, вярнуліся толькі дзве дваранкі, якія сталі жыць у прыбудове да двара, а галоўны будынак прыняў ролю складу; у ходзе савецкага наступлення ў 1944 годзе ён згарэў. Але да таго часу, калі каля Падбелля стаяла нейкая савецкая вайсковая часць, у двары размяшчаўся яе штаб. Салдаты жылі далей, у зямлянках каля згаданага раней млына. І вось саветы задумалі паставіць у тых зямлянках печы; дзеля гэтага яны рашылі раскідаць грабніцу і з цэглы ад яе паставіць печы. Труны з грабніцы выкінулі ў яму на макранскіх могілках; панскім астанкам быў такім чынам згатаваны той лёс, якога прыход абяцалі не толькі даўнія рэлігіі, але і тая „рэлігія", якую сталі насаджваць новыя прышэльцы. Але грабніцы не ўдалося разбурыць цалкам — салідная гэта была будоўля і яе руіны аздабляюць Падбелле і па сённяшні дзень.

Зараз за Падбеллем пралягае чыгуначная лінія з Бельска ў Чаромху. Ёсць там прыпынак, калісь быў і будынак пачакальні, але паколькі больш ён служыў практыкаваннем гарэзлівай моладзі чым чакаючым поезда штораз кволейшым пасажырам, уладальнікі чыгуначных нерухомасцей знеслі яго, узамен паклаўшы новы насціл-тратуар на пероне, абводзячы яго металічнай поручневай агароджай.

А за чыгуначнай лініяй ветка ад яе ў бок новага мэблевага завода. На ветцы каля дзесятка пустых вагонаў для транспарту драўнінай сыравіны. Ад гэтай веткі чарговая ветка ў бок фабрыкі. А за фабрыкай, з боку Бельска і Спічкоў, абшырныя тэрыконы бярвён; на від займаюць яны плошчу ў некалькі гектараў не толькі на агароджанай фабрычнай тэрыторыі, але і навонкі яе. А што з дарогай, што мела пралегчы ў бок Кнарыд, каб транспарт абмінаў Бельск? Дарога ёсць, толькі іншая — некалькі дзесяткаў метраў толькі што вылітага, роўненькага як стол, асфальту ад фабрыкі да бельска-кляшчэлеўскай шашы...

Завод сусветнай карпарацыі з'яўляецца свайго роду крэпасцю, абгароджанай не толькі плотам і электроннымі вахцёрамі, але і ўсялякімі мерамі сакрэтнасці, нагадваючы недаступны замак Франца Кафкі. Таму не стаў я нікога распытваць пра абяцанае да яго пабудовы працаўладкаванне мясцовага насельніцтва, бо такое пытанне выклікала б не надта радасныя рэакцыі, мабыць, з усіх бакоў. Прайшоўся я па аўтамабільнай стаянцы, што перад фабрычнай брамай. Большасць з некалькіх дзесяткаў машын мела бельскую рэгістрацыю, шмат было беластоцкіх, крыху гайнаўскіх і некалькі, парадку пальцаў адной рукі, іншых. Але гэта і так не дае адказу на пытанне, *адкуль* з'явіліся ўладальнікі тых машын...

# „Напісанае застанецца”



Вось перагарнуў адну з самых аб'ёмістых кніг, якія — акрамя Бібліі — калі-небудзь мне здарылася трымаць у руках. „Іерархія і клір Праваслаўнай царквы ў межах ІІ Рэчы Паспалітай і пасляваеннай Польшчы ў XIX-XXI стагоддзях”*. Пару дзён раней сустракаўся з яе аўтарамі: айцом Рыгорам і матушкай Антанінай. Мы глядзелі на карціны ў іхным парафіяльным доме, на працоўны пакой, на паліцы з папкамі архіўных матэрыялаў, а ў іх размеркаваныя паводле тэматыкі незлічоныя здымкі, выразкі з газет, нататкі і дакументы. Пaглядзелі і экспанаты ў краязнаўчым музеі „Бацькаўшчына”, размаўлялі пра многае, не засяроджваючыся на апошняй з іх шматлікіх прац, пра якую цяпер пішу. Пра сам багаты плён навукова-даследчыцкай працы а. Рыгора Сасны асобна і ў пары з матушкай Антанінай Троц-Сасной ведаю з самых твораў і з публікацый пра іх, а чаго каштавала дасягненне гэтага плёну — здагадваюся, хаця, прыкладваючы звычайныя меркі, і не ў стане поўнасцю ўявіць. Тысяча старонак. У алфавітным парадку некалькі тысяч біяграмаў епіскапаў, святароў, дыяканаў, рэгентаў і псаломшчыкаў на працягу амаль двух стагоддзяў на тэрыторыі, дзе прасоўваліся дзяржаўныя межы, але Царква і народ заставаліся на месцы. Пачынаю ўсведамляць колькі гадоў працы, якой неверагоднай сістэматычнасці, метадычнасці, дакладнасці і цярплівасці спатрэбілася, каб з'явілася гэтая манументальная праца. Ад прыліву паэтычнага натхнення нараджаецца ўдалая метафара ці фраза, але слоўнікі, энцыклапедыі, каталогі і даведнікі з'яўляюцца як плён добраахвотнай, тытанічнай працы, сапраўднай інтэлектуальнай катаргі. Ведаю, бо хаця і сам сёе-тое пішу, але гэта непараўнальнае з працай сужонства Соснаў.

Прасоўваюся паводле алфавіту ў пошуках знаёмых прозвішчаў. Знаходжу кароткую біяграму і пра сябе, пра свайго цесця і швагра — святароў. Пры знаёмых жывых і памерлых затрымліваюся, чытаю, успамінаю. Многага даведваюся пра тых, якіх — як мне здавалася — ведаў, ды аказваецца, што многага пра іх і не ведаў. Не чытаю пра ўсіх і аўтары мне гэта даруюць, бо гэта нетыповае выданне. Гэта не захапляльны раман, у якім ёсць фабула, развіццё акцыі, пралог і эпілог. Гэта каталог. Гэта энцыклапедыя. Гэта даведнік. Я знайшоў і затрымаўся прыблізна на сотні біяграмаў. Нехта спыніцца на яму знаёмых прозвішчах. Яшчэ некага зацікавіць асоба свайго продка і кароткія звесткі пра яго падахвоцяць да паглыблення ў мінулае свайго роду. Айцец Рыгор трапна заўважыў, што зараз сталі моднымі пошукі сваіх каранёў. Я ўпэўнены, што гэтае выданне стане зыходным пунктам для царкоўных гісторыкаў. Царква павінна ведаць сваё мінулае, свае вытокі, хаця б дзеля таго, каб збіваць аргументы нядобразычліўцаў, якія праваслаўе ў Польшчы лічаць чужым элементам, вынікам нейкага варожага дэсанту. Спадзяюся, што кніга натхніць і падахвоціць таксама тых, хто спрабуе паглыбіцца ў сваю радаслоўную.

Айцец Рыгор і матушка Антаніна ўзнавілі і ўсцераглі ад забыцця тысячы і самых экспанаваных, і самых сціплых падзёншчыкаў у вінаградніку Гасподнім.Ва ўступным слове д-р Гжэгаж Яцэк Пэліца слушна адзначыў тое, што і мне прыйшло ў галаву перш, чым я прачытаў яго прадмову. Пасля добра выкананага задання чалавеку характэрна спадзявацца ўзнагароды і прызнання. Гэтак было з сямідзесяццю апосталамі, якія, выканаўшы даручэнне, вярнуліся і з радасцю заявілі: „Чэрці слухаюцца нас дзеля Імя Твайго”. Аднак пахвалы яны не пачулі, а Хрыстос сказаў ім: „Я даў вам уладу наступаць на змеяў і скарпіёнаў, і на ўсю сілу варожую, і нішто не пашкодзіць вам, аднак з таго не цешцеся, што духі вам пакараюцца, але што імёны вашы запісаны ў небе”. Так. Імёны ўсіх руплівых сыноў Царквы, асабліва тых, якія служылі Царкве не дзеля ўзнагарод і званняў, усёй верай і праўдай, «запісаны ў Небе», у «Кнізе жыцця». Аднак добра, калі яны яшчэ замацаваныя пісаным словам. Пригадваю занатаваныя адной журналісткай словы а. Рыгора: «Няма дакумента — няма чалавека. Нават невядома, што пра яго напісаць на помніку».

Угадваю адну з самых складаных для зразумення кніг — «Майстра і Маргарыту» Міхаіла Булгакава. «Рукапісы не гараць», — заявіў Воланд Майстру, які кажа, што рукапіс сваёй кнігі пра Понцкага Пілата ён спаліў. Кніга сапраўды не згарэла і кот Бегемот прынёс у зубах тоўстую папку рукапісаў. Сёння ведаем, што Булгакаў хацеў сказаць. Праўдзівае слова, важную і жывую чалавечую думку немагчыма ні забараніць, ні знішчыць. Напісанае можа згарэць і згніць, але калі яно вартаснае, то застанецца ў памяці, уваскрэсне ва ўспамінах, а ўспаміны матэрыялізуцца ў выглядзе іншага твора і захаваюцца для наступных пакаленняў. Атрымліваецца, што напісанае застанецца.

Схіляю нізка галаву перад айцом Рыгорам і матушкай Антанінай, не знаходзячы слоў, каб належным чынам выказаць ім сваю глыбокую павагу, захапленне і прызнанне. Няхай Бог падоўжыць іхныя дні і дазволіць ажыццявіць далейшыя, творчыя задумы.

Кастусь БАНДАРУК

* ks. Grzegorz Sosna, m. Antonina Troc-Sosna, *Hierarchia i kler Kościoła Prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX-XXI wieku*, Ryboły 2012, ss. 1007.



# http://mahistrat.org

У цяперашняй Беларусі грамадская актыўнасць яе жыхароў у паўсядзённым жыцці невялікая. Ды і па вялікім рахунку праяўляцца ёй няма дзе. З аднаго боку ўлады арганізоўваюць разнастайныя акцыі, кшталту суботнікаў, праўрадавых мітынгаў і ўласна тым шляхам ідзе імітацыя гэтай актыўнасці, а з другога боку насельніцтва пазбаўлена рэальных рычагоў уплыву на ўладу, бо выбары ў Беларусі даўно сталі прафанацыяй. Ну а калі выбары — прафанацыя, то і дэпутаты мясцовыя, як і парламенцкія прадстаўляюць інтарэсы каго заўгодна, толькі не мясцовых жыхароў.

Разам з тым прыглушэнне грамадскай актыўнасці не цалкам дае рады, бо тыя, каму, у добрым сэнсе слова, „карціць” займацца грамадскай дзейнасцю, знаходзяць спосабы рэалізацыі свайго жадання. Выліваюцца яны ў модныя цяпер грамадзянскія ініцыятывы, якія ў адрозненні ад арганізацый не трэба нідзе рэгістраваць і ставіць на ўлік. Адным з прыкладаў такой ініцыятывы стаў створаны некалькі гадоў таму ў Магілёве „Грамадскі магістрат”, сайт якога знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе http://mahistrat.org.

Нягледзячы на тое, што актывісты ініцыятывы ніякім чынам не акрэсліваюць сваю дзейнасць на старонках сайта, цікаўны карыстальнік заўважыць, што асноўная мэта дзейнасці — папулярызацыя ідэі мясцовага самакіравання з аглядкай на Магдэбургскае права. Менавіта Магдэбургскае права было, на думку актывістаў магілёўскага „Грамадскага магістрата”, тым чыннікам, які адрозніваў Беларусь ад Расіі, дзе такога права гарады, як вядома, не мелі. Таму на нешматлікіх старонках сайта, а іх па сутнасці толькі дзве — „Галоўная” і „Навіны”, распавядаецца аб розных падзеях і імпрэзах так ці іначай звязаных з абыходам чарговых угодкаў надання Магілёву Магдэбургскага права.

«Усе мерапрыемствы, якія мы праводзім, яднае адно: каб у Беларусі ідэя Магдэбургскага права актуалізавалася. У Беларусі 100 гарадоў мелі Магдэбургскае права. Мы падрыхтавалі і разаслалі паштоўкі ў гарадскія газеты, у гарвыканкам, дырэктарам школ. Мы іх павіншавалі з гадавінай Магдэбургскага права. Мы хочам, каб гэты дзень стаў агульнагарадскім святам. Традыцыйна мы праводзім такія мерапрыемствы на працягу 15 гадоў і кажам: гэта наша свята. Апошнія два гады прадстаўнікі ўлады ігнаруюць нашы прапановы нешта правесці ў гэты дзень разам. Такое адчуванне, што іх гэта не цікавіць», — распавядае актывіст ініцыятывы Аляксандр Сілкоў у нататцы „У Магілёве адзначаюць гадавіну Магдэбургскага права”.

Нельга казаць, што навіны на сайце абнаўляюцца хутка, але яны тычацца даволі цікавых падзей, што здараюцца ў Магілёве з грамадскімі актывістамі. Так адсюль можна даведацца, што ў верасні мясцовая міліцыя затрымала групу замежных турыстаў, якія былі запрошаны сваімі беларускімі сябрамі на нейкі навучальны семінар, а потым, з-за нібыта неадпаведнасці мэты знаходжання дэклараванай, прымусіла іх хуценька з'ехаць з „гасціннай” Беларусі.

У цяперашні час сайтаў розных накірункаў, што так ці інакш пазіцыянуюць сябе як мясцовыя вэб-парталы, у Беларусі многа. Адметнасць сайта „Грамадскага магістрата” ў тым, што ён першым вельмі актыўна выкарыстоўвае ідэю адышоўшага ў гісторыю Магдэбургскага права дзеля актывізацыі сучаснай грамадскай дзейнасці.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

## Пінскі калегіум

Гаворачы пра слаўную сталіцу беларускага Палесся Пінск (хоць, магчыма, на гэты неафіцыйны тытул прэтэндуюць і іншыя гарады), асобную гутарку трэба весці пра мясцовы калегіум піяраў — архітэктурны помнік з багатай гісторыяй, які з'яўляецца асноўнай візітоўкай горада праз некалькі стагоддзяў. Па якой дарозе не ідзеш праз цэнтр горада — па вуліцы Леніна (раней яна называлася Вялікая Спаская), ці па іншай, ногі нібы самі па сабе вядуць да галоўнага пляца, пры якім і стаіць гэты шэдэўр мураванага дойлідства.

Пінскія езуіцкія калегіум і касцёл былі пабудаваны як цэласны ансамбль у сярэдзіне XVII ст. з цэглы. З'яўленне тут езуітаў зусім невыпадковае. Гэты ордэн заўсёды імкнуўся стварыць свае асяродкі ў вялікіх гарадах і значных мястэчках. Першасная рэзідэнцыя ў Пінску размяшчалася ў доме, які пабудаваў стольнік Мікалай Ельскі. Хуткаму росту езуітаў тут спрыяў пінскі староста Станіслаў Альбрэхт Радзівіл, сапраўдны магнат-багацей. З 1638 г. тут размяшчалася філасофска-тэалагічная школа. Крыху пазней адчынілася музычная бурса, а ў 1694 г. — аптэка. Увесь гэты час стала дзеіў тэатр, ужо ў XVIII ст. была заснавана бібліятэка і шпіталь для бедных. Вельмі пацярпеў калегіум ад казакоў-рабаўнікоў Багдана Хмяльніцкага ў час вайны 1648-1654 гг.

Комплекс не заўсёды належаў рыма-каталікам. У адпаведнасці са зменай дзяржаўнай улады цэлы час мянялася і канфесійная палітыка. Праз трынаццаць гадоў пасля закрыцця калегіуму ў 1773 г. касцёл стаў кафедральным саборам Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі, а з 1800 г. перайшоў да праваслаўнага Пінскага Богаяўленскага манастыра. Неўзабаве сюды з Лядаў была перамешчана духоўная вучэльня. Толькі больш чым праз сто гадоў — у 1919 г. касцёл быў вернуты езуітам, а з 1923 г. зноў запрацаваў калегіум. Пасля прыходу бальшавікоў у 1939 г. яго, зразумела, зачынілі.

У 1956 г. гэдзе магутны велічэзны касцёл св. Станіслава быў злачынна знішчаны савецкай уладай. Разбурыць калегіум, на шчасце, не пасмелі. Г-падобны ў плане трохпавярховы будынак і надалей стаіць даўжэйшай часткай перпендыкулярна рацэ Піна — да яе звернуты паўднёвы фасад. З гэтага боку можна пабачыць на аднапавярховай прыбудоўцы шыльду „Рэстаран у Александра” — установа адпачынку, што праўда, ужо даўно не працуе. Побач у яшчэ адным дамку размясцілася крамка для паляўнічых і рыбаловаў. А насупраць калегіуму — сіне-белы будынак рачнога вакзала. Такіх у Беларусі мне бачыць не даводзілася. Надзвычай файны від на агромністы калегіум з мясцовага моста. Тут жа, непадалёк, усталявана стэла, якая адлюстроўвае дату „нараджэння” горада над Пінай. А з боку цэнтра каля калегіуму невялікі сквер — з аднаго боку перавражаюць лісцёвыя і туі, з іншага — елачкі.

У найноўшы час будынак зазнаў рэстаўрацыю. У калегіуме зараз размешчаны мясцовы краязнаўчы музей Беларускага Палесся з досыць вялікай карціннай галерэяй, а таксама харэаграфічная школа. Паблізу ўваходу пастаўлены помнік-трактар. Цікавы „экземпляр” тэхнічнай думкі маркі ХТЗ, які калгаснікі называлі „Капітанам”, безумоўна, мог бы прысутнічаць у горадзе, але відавочна ў іншым месцы.

Пінскі езуіцкі калегіум — адзін з выдатнейшых архітэктурных помнікаў эпохі барока — сведка многіх гістарычных падзей, які сёння радуе вока мясцовых жыхароў і турыстаў. І, будзем спадзявацца, перажыве яшчэ нямала стагоддзяў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Фота Віктара Буры



Кіраўнік калектыву Галена Барташэвіч з узнагародай Гран-пры. Трэці злева — Мікалай Мяжэнны. Быдгашч, 16.09.2012 г.

# У цэнтры падзей — „Цаглінкі”

**У шматлікіх культурна-асветных мерапрыемствах на працягу многіх гадоў удзельнічае фальклорны калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны. І заўсёды прыцягваюць увагу гледачоў — і на айчынных сцэнах, і на замежных. Нядаўна калектыў „Цаглінкі” заваяваў Гран-пры XV Агульнапольскага агляду артыстычнага руху сеніёраў „АРС-2012” у Быдгашчы. З гэтай нагоды пра надзённыя справы калектыву з яго музычным кіраўніком МІКАЛАЕМ МЯЖЭННЫМ гутарыць Віктар Бура.**

**Віктар Бура:** — *Што ўяўляюць сабою сёння папулярныя „Цаглінкі”?*

**Мікалай Мяжэнны:** — Перад калектывам паўсталі больш разнапланавыя задачы, чым было раней. Але, думаю, з часам і гэта будзе для нас справай актуальнай для выканання. Справімся! На мой погляд, функцыя фальклорнага калектыву „Цаглінкі” больш шырокая. Галоўная яго задача — выйсці і дакладна, яскрава выканаць сваё выступленне. Наш калектыў — гэта людзі featured рознага ўзросту. Але, нягледзячы на гэта, харысты калектыву маюць здольнасць добра падрыхтавацца, быць дынамічнымі на сцэне.

— *Сёй-той кажа, што харыст — гэта вакаліст, які не знайшоў сябе ў ролі саліста. Гэта так? Ці спяваць у хоры таксама прызванне?*

— Думаю, што нельга гаварыць пра харыстаў, маўляў, яны не дасягнулі да салістаў. Сапраўды, некаторыя ўдзельнікі калектыву знаходзяць сваё прызванне ў харавым мастацтве. Уменне адчуваць калектыў, знаходзіць аптымальнае гучанне голасу, каб не вытыркаць яго, а на гэта не кожны здольны.

— *У некаторых харыстаў няма адпаведнай падрыхтоўкі, каб спяваць у хоры. Як яны да гэтага ставяцца?*

— Па-рознаму. Але ў прынцыпе гэта для іх новае, цікавае. Для мяне самога было і ёсць цікава паспрабаваць свае сілы, заняцца гэтымі людзьмі, даведацца, што з гэтага атрымаецца. Я лічу, што калектыў „Цаглінкі” дастаткова хутка зламіў сутнасць на сцэне. Мы стараемся падчас канцэрта прыцягнуць увагу гледачоў да таго, што адбываецца на сцэне, як мы спяваем, выконваем чарговую песню. Для мяне важна, каб кожная праспяваная „Цаглінкамі” песня не была проста праспяванай, а перажытай, каб сваёй цеплынёй, мяккасцю, шчырай беларускай пяшчотай сагрэла сэрцы. У іх сіла голасу, глыбіня тэмбру, цудоўнае валоданне дыяпазонам... Недарма яны, „Цаглінкі”, знайшлі высокае прызнанне ў краіне і далёка за рубяжом. Гэта нас цешыць, радуе. Гэта тое, што нараджаецца з сэрца і ідзе да сэрца.

— *Дзякую за размову.*

Віктар Бура

## Наш Мікалай

Тугі развеюць хмары,
У бярозах скінуць боль.
Заве нас у Ляўкова
Мяжэннага баян.
Ківае пальцам строга
На рэпетыцыях старыкоў.
Нашто цвяліць старога
Баян ізноў зайграў.
Вучоны наш Мікола.
Дый мы не прастакі.
У Ляўкове баярынам ён звецца.
А ў Гродне ён — земляком.
На зайздрасць некаторым
Над срэбным ручаём
Пад зоры ўзвёў ён хор „Цаглінкі”
У суседстве з салаўём.
Дазволь мне тут памарыць,
Адтаць душой дазволь.
Спагадны ты таварыш
Баярын Мікалай.

# ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

Калі вы зацікаўлены гісторыяй і культурай Беларусі і беларусаў, іх сучасным жыццём, калі вы актыўныя і творчыя асобы, то запрашаем вас да ўдзелу ў V конкурсе *„Пазнай Беларусь”*, які арганізоўвае Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча

*Конкурс праводзіцца пад ганаровым патранатам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча, прафесара В.А. Гайсёнка*

## Умовы конкурсу

У конкурсе могуць прымаць удзел дзеці і моладзь, творчыя калектывы, гурткі асветных і культурных устаноў Польшчы ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў. Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца працы на беларускай і польскай мовах (вітаюцца арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення).

**Запрашаем да ўдзелу па наступных намінацыях:**

— лепшы малюнак, пластычная праца пра Беларусь (фармат А4 і А3);
— фотаздымак аб Беларусі ці беларусах (памер здымка ад 18х24 см і вышэй);
— літаратурна-паэтычны твор (апавяданні, вершы, замалёўкі і г.д.);
— сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям’і”;
— мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі.

Па кожнай намінацыі вызначаюцца пераможцы па чатырох узроставых катэгорыях: ад 5 да 7 гадоў, ад 8 да 12 гадоў, ад 13 да 15 гадоў, ад 16 да 19 гадоў.

**Конкурс праводзіцца *з 1 лістапада 2012 г. па 31 сакавіка 2013 г.*** Аб выніках конкурсу і месцы правядзення ўрачыстага падвядзення вынікаў удзельнікі і іх настаўнікі будуць папярэджаны загадзя.

Арганізатары астаўляюць за сабою права на друк прац удзельнікаў конкурсу ў асобным альбоме.

**Конкурсныя працы дасылаць на адрас:**

*Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы вул. Варшаўская 11, 15-062 Беласток*

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — персідскую пагаворку.

1. барабан = 19 _ 20 _ 10 _ 11 _ 16 _;
2. 2 = 2 _ 3 _ 1 _;
3. Адамава спакусніца = 26 _ 25 _ 18 _;
4. дзяржава з Месапатаміяй = 15 _ 24 _ 22 _ 23 _;
5. дзяржава з Маньчжурыяй = 7 _ 6 _ 21 _ 8 _ 9 _;
6. 2,54 см = 28 _ 29 _ 5 _ 4 _;
7. сваю кабылу хваліць = 27 _ 17 _ 12 _ 13 _ 14 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 |
| | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 40 нумара

Крывіч, Рэйн, грак, міля, мі, загадчык, сук, трава, Мулявін, кніга, ям, жоўць, бочка.

Рашэнне: **Лягчэй накарміць страўнік чым вока**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 04.11 — 10.11

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш нейкі злосны на невядома што і гатовы змагацца невядома з кім. Рыхтуйся на вялікія шанцы. Няхай не звядзе цябе спакой у першай палове месяца. Парабі парадак у дакументах. Будзеш прагнуць раскошы, ды не ўлезь у даўгі. Шлюб у 3 першыя тыдні лістапада — вельмі ўдалае сужонства.

**(21.04. — 21.05.)** Прафесійныя нагоды і вялікія грошы. Можаш убачыць у лістападзе іх больш, чым у жыцці бачыў! Але ж праблемы, што здаўна нараcталі, выбухнуць і цяжка будзе над імі запанаваць. 4-6.11. не правакуй лёсу, не ўпірайся на сваім і не зайздросць.

**(22.05. — 22.06.)** Разагрэюць цябе пачуцці, у гэты раз цябе не падвядуць. Твой дом будзе аж свяціцца. У кар’еры акажацца быць незаменным. Многа спраў і праблем, але ўсе пойдуць табе да дабра. Падпішы добрую страхоўку.

**(23.06. — 23.07.)** Сіл хопіць, але ахвоты будзе менш. Амаль увесь месяц схочацца паляжаць на канапе. Не будзеш наракаць на самоту. З 9.11. (да 14.11.) заляціш камусьці ў вока. Тыдзень поўны паездак, моцных эмоцый і бурлівых праяў пачуццяў.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш дбаць перш за ўсё аб шчасце найбліжэйшых. Цяпер гэта ты аб усім вырашаеш. Не будзеш думаць аб ашчаднасці. Вельмі напружаны аўторак, раптоўныя змены сітуацый, магчымая страта. У пятніцу чакай прэміі ці ганарару. Дакажаш, што ты найлепшы ў прафесіі.

**(24.08. — 23.09.)** Не абяцай больш чым дасі рады зрабіць. Калі зможаш, найцяжэйшыя абавязкі перадай іншым. Але ж твой размах можа зрабіць уражанне! Актыўны лад жыцця прынясе здароўе. У каханні ідзі на ўсю катушку! Можаш палепшыць сваю фінансавую сітуацыю, прыняўшы прапанову знаёмых.

**(24.09. — 23.10.)** На пачатку тыдня можаш праглынуць не адну горкую пілюльку. За тыдзень зробіш больш, чым іншыя за месяц. 7-11.11. — поўнае шчасце і дабрабыт. Ды 4-5.11. можаш стаць ахвярай сваёй наіўнасці. Не ангажуйся ў інтрыгі, нават калі мэта будзе табе здавацца шляхетнай.

**(24.10. — 22.11.)** Пачатак месяца — далёкі ад ідыліі. Не азірайся назад, не задумвайся, што было б калі... У лістападзе паявіцца многа нагод для памнажэння маёмасці. У здароўі будзеш мець пік магчымасцей (можаш спадзявацца на пераломы ў лячэнні). Энергія Сусвету падмагуе твае планы ў перамене ладу жыцця.

**(23.11. — 22.12.)** Шмат можаш зрабіць у службовых справах, датычных дому, участка. Калі тэстараешся за зачацце дзіцяці — найлепшы час 7-11.11.; удачы, добрыя выпадкі. Справа, якая здаўна вісіць над табою, знойдзе шчаслівы фінал. Хаця 3-7.11. цяжка будзе табе дагаварыцца з людзьмі; не дамаўляйся, адтэрміную важныя размовы

**(23.12. — 20.01.)** Запрагнеш рабіць выключна вялікія рэчы — уратаваць фірму, сканструяваць рэвалюцыйнае вынаходства, выгнаць з рынку канкурэнцыю... Больш ацсь з гэтага можа не ўдацца, але будзеш мець нагоду адрэкамендавацца. Штосьці дрыгне ў сардэчных справах. Да 6.11. вельмі спрыяць будуць табе чыноўнікі.

**(21.01. — 19.02.)** 4.11. не вельмі ўдалы дзень на рамантычныя сустрэчы, не пашчасціцца табе і ў інтарэсах. Але пасля чакаюць змены ў пачуццях, прыгоды, забавы. Твае справы апынуцца на языках (будзеш мець шмат дарадчыкаў). У касе раз будзе поўна, раз пуста. На працы можаш моцна пайсці ўверх, пакажы ўсе свае таленты і вынаходлівасць. Слухаючы лекараў, хутчэй вернешся да здароўя.

**(20.02. — 21.03.)** Старайся больш адпачываць, асабліва перад 10.11. На свет глядзі больш рэалістычна. Дома завядзі новыя парадкі. Павыкідвай пашчэрблены посуд. Сродкаў хопіць, хаця магчымая спрэчка з блізкай ці далейшай раднёй. Калі вядзеш бізнес, можаш зрабіць добры інтарэс на чымсьці, чаго раней не прыкмячаў пад увагу. У панядзелак не дай сябе ашукаць. У сераду магчымая спрэчка ці нават дрaка, з царапінамі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Ратуйма Украіну, хлопцы! (2)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

Які чорт падмовіў нас праставаць дарогу! На скрыжаванні шляхоў не было ўказальнікаў. А нам трэба было зрабіць выбар, дзесьці павярнуць. Першыя хвіліны ніхто не хацеў адазвацца. Колкая цішыня пераклікалася з хмурным дажджлівым небам і пачуцём віны. Спачатку мы спрабавалі расшыфраваць назоў вёскі. Заіржавелы надпіс чыпеў на мокрым бляшаным прыпынку. Першая паламаная літарка адвярнулася дагары нагамі і задам да апошніх трох ...




— Парш.. Шарш... Гарш...

Нічога падобнага не было на карце.

Сабраўшы ўсе сілы, я пацягнулася да пахіленай хаты, якая ўрастала ў зямлю. На панадворку хадзіла задуманая дзяўчына, якая без слова паказала дарогу на Самбор. Напамінала з'яву з іншага свету. У цэлым кашмары найбольш палохала адна думка — каб толькі не вяртацца назад.

* * *

7 кастрычніка, нядзелька. У прыкарпацкім Дарагабычы якраз рыхтаваліся да святкавання гадавіны УПА (Украінская Паўстанчая Армія). Побач гарадской ратушы, на сцяне будынка віднеў партрэт Сцяпана Бандэры. На рынку стаялі стэнды ў гонар паўстанцаў. Сам Бандэра быў паказаны ў атачэнні сямейкі і верных паплечнікаў, з *дружынай*, значыць, жонкай. З фотавыстаўкай пераклікаліся выбарчыя лозунгі кандыдатаў ад Кангрэса ўкраінскіх нацыяналістаў, ад якіх веяла крайняй эмацыйнасцю. Вось кандыдат Гук, сфатаграфаваны на чорна-чырвона-чорным фоне з рукою на сэрцы кляўся сваім выбаршчыкам: *Гатовы памерці за Украіну!* Прысутнасць тэмы УПА поўнасцю зацьміла ўсякія гаспадарчыя лозунгі і разважанні ў Прыкарпацці. Андрэй Лапушынскі, кандыдат ад таго ж Кангрэса, хваліўся сваімі дасягненнямі ў галіне культуры. А культура, вядома ж, з'яўляецца паказ-




Фота Діяны НАХІЛА



чыкам узроўню гаспадарчага развіцця ў грамадстве. Свае заслугі Лапушанскі пазначыў па ўзору старажытных летапісаў:

2008 год, пастаўлены помнік Сцяпану Бандэру ў Старым Самборы;

2011 год, адкрыццё помніка Сцяпану Бандэру ў Самборы;

2012 год, падрыхтаваны і ўзведзены крыж у памяць змагароў за волю Украіны (сяло Губычы);

2012 год, адкрыццё помніка Сцяпану Бандэру ў гарадку Сколе;

2012 год, 14 кастрычніка, адкрыццё помніка Сцяпану Бандэру ў гарадку Турка;

2011 год, у вёсцы Баршчэва далучыўся да пабудовы Крыжа памяці „Змагайся за волю Украіны";

2011 год, у сяле Грушатоў настаўлена дошка ў гонар украінскага святога Івана Дзендзюры;

2012 год, у сяле Сусідовічы пабудаваны помнік абаронцам „Закерзоння ОУН — УПА. Дэпартаваным украінскім сем'ям з Надсання, Лэмкоўшчыны ў гадах 1940-51".

У іншай лістоўцы Лапушынскі асвятляў правакацыю, якую згатавала яму канкурэнцыя, у тым ліку нацыяналістычная «Свабода», якая нібыта распускала чутку пра тайнае супрацоўніцтва Лапушынскага з „Нашымі рэгіёнамі".

* * *

У аснове выбарчай праграмы апазіцыйнай кааліцыі «Бацькаўшчына», якой кіруе Юлія Цімашэнка, з'яўляецца адраджэнне сельскагаспадарчай прамысловасці. Гэта, даказваюць палітыкі, рэальна дапаможа зменшыць беспрацоўе, збудаваць неабходную інфраструктуру, падняць з сацыяльнага дна мільёны грамадзян.

Той жа самы кірунак абрала, а больш дакладна падхапіла, прыўладная «Партыя рэгіёнаў», якая таксама кінулася вырашаць праблемы вёскі. Ды як эфектыў-



на! Напрыклад, настаўніку, які захоча працаваць у вёсцы, ад рукі абяцалі кватэру і зарплату ў тысячу долараў.

Гэтая абяцанка, калі ўзяць пад увагу рэальны грунт, здавалася касмічнай. Пра магчымасці бюджэту найлепш сведчыць мінімальная пенсія, якая на сучасны момант складае толькі сто долараў! Пры тым кошт яды часта большы як у Польшчы.

Сярод касмічных прапаноў рэгіяналаў у адрас вясковых настаўнікаў да поўнага шчасця не хапала толькі самалёта! Апошняя цацка найбольш тут дарэчы. Проста, да многіх вёск на Украіне немагчыма даехаць, нават фурманкай. Усё з-за нерамантаваных дарог, якія месцамі напамінаюць рэчаіснасць з планеты Марс.

Замест аўтастрадай пабудаванай на Еўра-2012 — адзінай прыстойнай дарогай у краіне — мы рашылі ездзіць звычайнымі і раённымі дарогамі. Найбольшы правал чакаў дзесьці за мястэчкам Барыслаў, куды мы ехалі ў Самбор. Нішто не прадказвала такога прыгодніцкага сцэнарыя. Той жа дарогай перамяшчаліся аўтамабілі і маршруткі, некаторыя з іх апярэджвалі нас са свістам. У пэўны момант, у чыстым полі, перад намі з'явіўся раскіданы мост...

У падобных выпадках чалавек ідзе за прыкладам іншых рызыкантаў: хай будзе, што будзе. Мы рашуча пераехалі рэчку ўброд, як гэта зрабілі перад намі ўсе прыкарпацкія хлопцы. Праўда, у рацэ не было зашмат вады ды каляіны выглядалі грунтоўна, асвоена...

* * *

У Самборы мы трапілі на выбарчы пікет Андрэя Цягнібока ад «Свабоды». Кандыдат, што ўразіла, больш чым за сябе агітаваў за свайго брата Алега, лідара «Свабоды». Сярод жменькі стомленага народу, якая вянком акружыла выступоўца і заадно помнік Тарасу Шаўчэнку, прыздоблены жоўта-сінім вянком, вялася гутарка на сваяцкай ноце. Нехта з публікі спытаў пра палітычнага канкурэнта ад рэгіёнаў:

— А які ён украінец, калі ў хаце размаўляе па-расейску, — адказаў Цягнібок.

Чорны піар зрабіў усё, каб «Свабодзе» прышыць ярлык хвараватых антыпалякаў.

Нашую тройцу сустрэла штосьці адваротнае. Нас не толькі прыкмецілі ў грамадзе, але яшчэ распыталі пра правы нацыянальных меншасцей.

— То прыязджайце да нас рабіць бізнес, — запрасілі нас на канец хлопцы са штабу Алега і Андрэя Цягнібокаў.

Сімпатыя ў бок «Свабоды» пабольшылася пасля прачытання выбарчай лістоўкі Андрэя Цягнібока. У адным інтэрв'ю ён расказаў як дабіраўся ў прыкарпацкую глыбінку з выбарчай агітацыяй. На адной дарозе сустрэў іх сарваны мост. Палітык запамятаў як з душой у пятках пераязджаў праз раку, нічто не ведаў ці прапусціць, ці панясе... Пасля гэтага досведу ён падумаў пра людзей, якія жывуць тут адрэзаныя ад свету, да якіх нават хуткая дапамога не даедзе.

## „Свабода" ідзе на вайну!

29 кастрычніка, у дзень калі аддаем да друку актуальны нумар газеты, вядомыя ўжо афіцыйныя вынікі звыш 65% аддадзеных галасоў на палітычныя партыі ў час праламенцкіх выбараў на Украіне. Яны рэзка разыходзяцца з вынікамі экзіт-полаў. У адказ лідары „Свабоды" (Алег і Андрэй Цягнібокі) заявілі, што выведуць людзей на вуліцу, каб апратэставаць грубую фальсіфікацыю выбараў.

Параўнайце самі (у %):

Паводле **Цэнтральнай выбарчай камісіі**:

Партыя Рэгіёнаў — 33,8
Бацькаўшчына — 22,7
Камуністы — 14, 6
Удар — 13,7
Свабода — 8,8

**Паводле экзіт-полаў**:

Партыя Рэгіёнаў — 28,1
Бацькаўшчына — 24,7
Удар — 15,1
Свабода — 12
Камуністы — 11,8

ISSN 0546-1960